# ЦАРКОЎНЫ  ПАСЛАНЕЦ

БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА

ПАВЕДАМЛЕНЬНІ ПАРАХВІЯЛЬНАЕ РАДЫ

КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА

CHURCH MESSENGER, P.O. BOX 5982, SOMERSET, N.J. 08875-5982

ГОД 20/26 | ВЯЛІКДЗЕНЬ 1998 | 1/45/55


## ВЯЛІКОДНАЕ ПРЫВІТАНЬНЕ ЯГО МІЛАСЬЦІ БОЖАЙ ЛАСКАЙ МІТРАПАЛІТА ІЗЯСЛАВА ПЕРШАГЕРАРХА БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ



ХРЫСТОС ВАСКРОС!

Ізь Сьвятым Вялікаднями вітаю Вас Годнае Чэсьці Духавенства й Любыя Вернікі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, ды ўсе, дзе-б Вы ня былі, Праваслаўныя Беларусы ў духоўным і сьвецкім стане, што да свае роднае Сьвятое Царквы ймкняцеся, а яшчэ доступу ня маеце.

Мае Любыя! Блізка дзьве тысячы год назад у гэты Дзень праз Хрыстовае Ўстаньне з Умерлых спраўдзілася Божая Ўсемагутнасьць ды выявілася Ягоная бязьмежная Любасьць да людзкога роду.



Із усіх бо магчымасьцяў, што дадзеныя чалавецтву, вярнуць сабе жыцьцё ніхто йзь сьмяротных ня дужы.

Затое, як сьветчыць Устаньне Божага Сына з Умерлых, яно ў Божай сіле.

Гэтае Ўстаньне Бог справіў, аднак, не на зьдзіваваньне людзей Ягонай Сілай, а зь бязьмежнае да нас Любасьці.

Бо няма большае любасьці за тую, калі аддаць свайго сына на мукі й сьмерць, каб збавіць каго ад загубы.

На загубу-ж людзі былі засуджаныя за няслухмянасьць Божым Наказам, за руйнаваньне таго, чым іх Бог абдарыў, за ненавісьць да іншых ды гвалт над імі, за падатнасьць ліху й распусьце.

Усё гэтае чыненае людзьмі, пачаўшы ад іхнага стварэньня, а абнятае словам грэх, блага, ні зь якое іншае прычыны, але толькі з жаласьці й любасьці да нас, Бог змыў і шчысьціў крывёю й сьмерцяй Ягонага Сына, ды абярнуў у ніштo Ягоным Устаньнем з Умерлых.

Дзякуючы гэтай Вялікай Ахвяры ўзноў нам адчынілася дарога ў страчаны Рай, калі мы йз свайго боку зробім ахвяру ды паводле Божых Наказаў пойдзем па той дарозе у нашым жыцьці на зямлі.

Гэтая свабода ад сплаты за пачатны грэх ды свабода выбару шляху да збаўленьня й вечнага жыцьця, або ўпроч ад іх, дадзеная нам, аднак, не як жабракам, а з даверу, што мы на яе годныя.

З гэтае, Богам вызнанае й Ахвярай Ягонага Сына выкупленае з глуму нашае годнасьці й галоўная нам прычына на радасьць у гэты Вялікі й Сьвяты Дзень нашага Збаўленьня.

Дазнаць гэтую радасьць ды нацешыцца ёю я Вам ад шчырага сэрца жадаю.

Але, Мае Любыя, гэтая радасьць будзе трываць нятолькі адзін дзень, а цэлы наш век на зямлі, калі сьведамасьць нашае годнасьці перад Божымі вачыма будзе ўвесь час у нашай памяці ды будзе кіраваць нашымі ўчынкамі.

Захоўваючы бо ейнае пачуцьцё ў нашых сэрцах мы будзем непадатныя на спакусы, нябоязныя ў вабліччы пагрозаў і неператожныя пад прымусамі.

Бо хто-ж можа вывышацца над намі, калі Божы Сын за кожнага з нас схацеў сьцярпець мукі ды памерці на крыжы?!

Хто можа казаць, што мы горшыя Богавы дзеці, ганіць нашую, што ад Бога пайшла мову ды адбіраць права гаспадарыць у Богам нам дадзеным Краі, калі Божы Сын Ягоным Устаньнем з Умерлых даў усім роўнае права ўчынкамі ў гэтым жыцьці заслугоўваць на вечнае жыцьцё?!

Хто можа забараніць нам мець прыяльную свайму Народу Праваслаўную Царкву ды роднай мовай славіць і ўпрашаць у Ей нашага Збаўцы Ісуса Хрыста, калі Ягонай Навукай Ён усім чыста паказаў шлях да збаўленьня?!

Ніхто! Ніхто, калі мы, памятуючы на нашую годнасьць, ня будзем даваць веры намовам тых, што хвальшуюць Божую Волю, калі ня будзем патураць тым, што ня будуюць, а разбураюць, ня пойдзем на голас тых, што не лячыць, а дабіваць клічуць!

Узброіўшыся пачуцьцём гэтае, дадзенае Богам, годнасьці, мы ўстоім супраць грэшных спакусаў сьвету, не дазволім ўзяць над намі верх уладзе гвалту й несправядлівасьці.

На месцы-ж усяго ліха й бяды, збудуем у нашым Краі шчасьлівае й дагоднае Богу жыцьцё, ды ў сваёй роднай Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве будзем услаўляць Таго, што памёр, каб выбавіць нас ад улады зла, бо Ён

ЗАПРАЎДЫ ВАСКРОС!

*+ Мітрапаліт Ізяслаў*

Першагерарх

Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы

## ПСАЛЬМ 73
(ПЕРАКАЗ)

Няўжо Ты, Божа, зрокся нас,
Няўжо ўзлаваў бяскрайна
На гурт пакорлівых ягнят,
Што пасьвіў гэтак дбайна?!

Народ згадай, што быў абраў
За свой з усіх плямёнаў
І край, дзе свой Ты ўзьнёс пасад
На высачы Сыёну.

Зыйдзі й дабро агледзь ускрозь
З варожых рук у зрыньні,
Дзе ўмест прасьбы быў глум чуцён
У зьняважанай сьвятыні!

Й над ейнымі дзьвярмі у зьдзек
Няверчы сьцяг быў ўзьняты -
За час над ім што мелі верх
Браў вораг з нас заплату.

Сякерамі з бажнічых сьцен
Ўвабраньне ўсё зрубалі
Й Твае хвалы харом усьлед
Вагнём дазем зраўналі.

Ў навазе конча нас зламаць
Спалілі ўсе сьвятыні
Й няма прарока, каб даў знак
Збаўленьня нам гадзіны.

Дакуль-жа будзе вораг дуж
Табе ўчыняць абразу,
Чаму ўпыняеш Ты руку
Й ня шлеш яму паразу?!

Ты, Божа, наш Ўладар усьцяж,
Збавец зь бяды заўсёдні,
Праз мора нам працяў быў шлях,
Гадзюкаў зьвеў падводных.

Яшчуравы галовы сьцёр
На жыр іх даў зьвярыне,
Крыніцы выпаўніў вадой,
Ссушыў рачныя плыні.

Начэй і дзён Ты Гаспадар,
Ты ўзьняў сьвятло ды сонца,
Канцы зямляныя паклаў
Ды зімаў й лет Ты Створца.

Чаму-ж, о, Божа, церпіш глум
Зьзьвярэлага натоўпу,
Ня шлеш ратунку нам дасюль,
У вадказ прасьбам замоўкнуў?!

Прырок, што ўветаш даў, стрымай:
Разбою сьціш навалу,
Ад згубы й сораму ўкрый нас
На Імя Твайго пахвалу!

За справу собскую Ты стань,
Адпомсьць насьмех варожы,
Раўнёю тым, што твораць гвалт,
Учыні адплату, Божа!

**ВІТАЕМ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ ІЗ 80-МІ ЎГОДКАМІ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ**

**ДЫ Ў ЧЭСЬЦЬ СЬВЯТА ЗЬМЯШЧАЕМ НЯ ЎСІМ ВЕДАМЫЯ ТРЫ ПСАЛЬМЫ З НАДЗЁННЫМ ЗЬМЕСТАМ.**

## ПСАЛЬМ 43
(ПЕРАКАЗ)

О, Божа наш!

Вялікіх дзеяў пераказ,
Што Ты чыніў ў даўніне,
Бацькамі слоўлены няраз
Дасюль нам ва ўспаміне.

Як Ты плямёны ўпроч пагнаў,
Каб продкам даць асельле,
Народам дужасьць адабраў
І выпалаў бы зельле.

Ня собскім бо адно мячом
Край продзяды здабылі
Й ня зброя ім была мурам
Упярок варожай сіле.

Дала ім верх Твая далонь
Над супратнямі ўсімі
Й Тваё аблічча, як услонь,
Стаяла перад імі.

О. Ўладару і Божа наш,
Прыяў Ты той пароюю
І ўсіх скаралі мы усьцяж,
Што йшлі на нас вайною.

Бываў спадзевам нам ня лук
Й мячы не ратавалі,
Твая бо Сіла ды Імя гук
За нас перамагалі.

Дык пахваляліся ўвесь час
Мы ласкаю Тваею,
Табе падзяка паміж нас
Гучэла без пастою.

Чаму-ж Ты зрокся нас цяпер,
Ня з нашым сьцягам ў бою? -
Над намі ворагам даў верх
Ды зьдзекавацца волю.

Як гурт авец у бойню шлеш,
Раскідаў па чужыне
І напавер нас прадаеш
Зусім па дармавіне.

Суседзям нас ў зьнявагу даў -
Увакол насьмех над намі,
Абразай нат назоў наш стаў
На ўсьцеп скрозь галавамі.

Ўпякае сорам кожны дзень
І брыдка ўзьняць аблічча
Ў лайбе бязбожнай ад людзей
Й пагрозаў навальніцы.

Наслаў Ты беды ўсе на нас,
Цябе хоць памяталі
І Твой суворы мы наказ
Увесь чыста захавалі.

Тваім шляхом народ ступаў
І сэрца ня зблудзіла -
За што-ж у воўчы яр загнаў,
Дзе сьмерць нас абступіла?

Калі-б упалі мы ў зьнявер,
Бажкоў чужых ўпрашалі,
Перад Табою выйшла-б ўверх,
Што ў сэрцы мы хавалі.

Але-ж Табе за вернасьць нас
Й пабожны Край наш любы
Баглайцы лютасна ўвесь час
Даводзяць да загубы.

Гаспадару, стрывож свой сон,
Навек не адвярніся,
Нялюдзкі церпім як прыгон
Ты ўрэшце падзівіся!

Зусім стаптаныя зь пяском
Даходзім ўжо з пакуты -
К Табе Ты любасьць нашу ўспомнь
Ды вырві ўрэшце з путаў!

## ПСАЛЬМ 136
(ПЕРАКАЗ)

Паўзьберагу рэк ў Бабілёне
Пасеўшы мы сьлёзы лілі
О, любы, далёкі Сыёне,
Ці ўбачым Цябе мы калі?

Там вербы гальлё пахілілі
Мы гралы ўчапілі на іх,
Як тыя, што нас паланілі,
З нас песьняў пыталі сьвятых.

Сьпяваць прымушалі ў няволі:
"Гэй, нятча, нам песьню сьпяі!"
Мы-ж песьняй Сыёнскай ніколі
Варожай ня ўчэсьцім зямлі!

Ты ў сэрцы ўсьцяж Ярузаліме,
На Твой як забыцца ўспамін,
Хай рукі ляпей мне адыйме
Ды мову займе назусім.

О, помсьць, Гаспадару, ліхое,
Эдэмцам за зьдзекі вярні
"Раўнуй" - бо гукалі - "зь зямлёю!",
Як верх над Сыёнам ўзялі.

О, лютая донь Бабілёньня,
Час помсты настане яшчэ;
Шчасьцён, хто твой вывадак пойме
Й на зрыньні тваім патаўчэ!

# ЗА ДАДЗЕНАЕ БОГАМ ПРАВА

**1948** **1998**

(ДА 50-Х УГОДКАЎ УЗНАЎЛЕНЬНЯ БАПЦ)

Што Царква не павінна забіваць праўда нагэтулькі незапярэчная, што нават няёмка казаць яе ўголас.

Гэта, ведама, калі йдзе праз забіцьцё фізычнае асобы.

Калі-ж пытаньне кранае духовага жыцьця гэтае самае асобы, дык здаўна й дасюль у выказваньнях ды дзеях шмат якіх, быццам верных эвангяльскай навуцы царкоўнікаў, выяўляецца нятолькі хістаньне, але нават і сьведамае запярэчаньне 6-е запаведзі.

Бо, як-жа йнакш, як не духовым забіўствам можна назваць дзеі, што настаўляюць чалавека адрачыся ад асаблівасьцяў, якімі яго праз бацькоў і дзядоў ушчадрыў Бог, ды абяртаюць у іншага - ворага гэтае Божай воляй усьвячанае спадчыны.

Нажаль на нашую долю выпала мець з усходу й з захаду суседзяў, што пад знакам крыжа нам гэткую духовую загубу нясьлі ды нясуць.

Наш народ, аднак, даўно зразумеў хвальш гэткае веры й стагодзьдзямі імкнуўся займець сваю, прыязную да ягоных патрэбаў ды чыстую ад юдаўскіх падманаў Праваслаўную Царкву.

Змаганьне за Яе пачалося яшчэ ў пору Полацкае Дзяржавы й іншых нашых княстваў, узьнялося да стварэньня собскае мітраполіі ў Вялікім Княстве Літоўскім ды, пасьля заняпаду пад каталіцкім наступам у Рэчыпаспалітай, завяршылася абвешчаньнем аўтакефаліі на саборы ў Пінску ў 1791-м годзе.

Задушанае пад маскоўскім займом гэтае змаганьне ўзнавілася разам з нацыянальным адраджэньнем на пачатку ХХ-га стагодзьдзя ды ў 20-х гадох намаглося абвесьціць аўтакефалію ў БССР.

Нажаль і гэты выяў імкненьня нашага народу да свае незалежнае адвонку Праваслаўнае Царквы ды й Яна самая былі яшчэ больш крывава, як пры цары, зьнішчаныя ў пору сталінскіх рэпрэсыяў.

Аднак нават сталінскія рэпрэсіі ня здолелі выкараніць гэтага імкненьня з душаў беларускіх праваслаўных вернікаў і яно ўзноў узьнялося, калі ў 1941-м годзе наш Край апынуўся пад новым, больш талерантным да рэлігіі, акупантам.

Пачынаць адбудову Царквы з намерам зрабіць яе аўтакефальнай даводзілася зь вельмі малымі задаткамі на ўдачу ў гэтай справе.

Ува ўсходняй частцы Беларусі духавенства й вернікі, што калісь бралі актыўны ўдзел у парахвіяльным жыцьці, былі фізычна вынішчаныя, а ў заходняй, у спадчыне па польскай акупацыі, засталіся ў большасьці зрусыфікаваныя, або й зусім расейцы сьвятары, невялікая колькасьць нацыянальна нясьведамага царкоўнага актыву ды два япіскапы - зацятыя расейскія манархісты.

Адно, што лучыла прыхільнікаў беларускае аўтакефаліі з чужынцамі япіскапамі й клірыкамі ды нямецкай акупацыйнай уладай было жаданьне выйсьці спад маскоўскае юрысдыкцыі.

Пры гэткім разыходжаньні інтарэсаў цяжка было спадзявацца на канструкцыйныя вынікі.

Усё-ж, старшыня Беларускага Камітэту ў Варшаве др. Мікалай Шчорс выпрасіў у Варшаўскага Мітрапаліта Дзяніса двох ярамонахаў беларускага паходжаньня: Філафея Нарко й Апанаса Мартоса ды з др-ам Віктарам Войтанкам дамогся ад архіяпіскапа Панцялеймана, што быў старшэйшым герархам на Беларусі, згоды на іхнае ўсьвячэньне ў япіскапы.

Нажаль, знаёмства беларускага нацыянальна-царкоўнага актыву з абодвамі гэтымі япіскапамі ды іхная бязьдзейнасьць пасьля прыезду на Беларусь хутка выявілі дарэмнасьць спадзяваньняў на архірэйскае павадырства ў дарозе да аўтакефаліі.

Бяз выніку засталіся й спробы намовіць той "беларускі" япіскапат да адкрыцьця духоўнае акадэміі, ці хоць сэмінарыі, або пачаць выдаваньне рэлігійнае літаратуры ў роднай мове.

Толькі з патрэбы паказаць немцам іхны адыход ад падпарадкаваньня Маскве ды з намеру лёгка зарабіць на падтрыманьне беларускага нацыянальна-царкоўнага актыву згадзіўся гэты япіскапат на скліканьне Краёвага Сабору ў канцы жніўня 1942-га году, на якім была ўхваленая й абвешчаная аўтакефалія Беларускае Праваслаўнае Царквы ды Ейным Мітрапалітам абраны архіяпіскап Панцялейман (Рэжноўскі).

Ніякіх, аднак, крокаў, каб атрымаць вызнаньне абвешчанае аўтакефаліі ад іншых Праваслаўных Цэркваў ні Мітрапаліт Панцялейман, ні хто іншы зь япіскапаў, ані выбраныя органы царкоўнага кіраўніцтва аж да іхнае эвакуацыі ў Нямеччыну ў 1944-м годзе не зрабілі й вялікая справа засталася няскончанай.

Апынуўшыся-ж у Нямеччыне г.зв. беларускі япіскапат пайшоў за клічам ягонага сэрца й адразу-ж наладзіў цесны кантакт з Расейскай Праваслаўнай Царквою за мяжою ды ў 1946-м годзе цалком да яе далучыўся.

Уліцьцё беларускага япіскапату разам зь немалою колькасьцяй падпарадкаваных яму сьвятароў ды нядужа нацыянальна сьведамых вернікаў у Расейскую Праваслаўную Царкву за мяжою зрабіла яе адразу найбуйнейшай сярод эміграцкіх праваслаўных цэркваў у Нямеччыне, а пазьней і ў сьвеце.

Каб, усё-ж, захаваць уплыў на даверлівых беларусаў гэты здрадніцкі крок быў названы "часовым".

Факт ліквідацыі беларускае аўтакефаліі выклікаў сярод беларускіх вернікаў і грамадзтва абурэньне, а разам і немалую разгубленасьць.

Адна частка зь іх канчаткова адвярнулася ад здраднікаў, але ня ведала, што далей рабіць, другая-ж, спадзяючыся, што яны вернуцца, прабавала іх да гэтага намовіць, або ўпрасіць.

У гэтай разгубленасьці, як у крызысных сытуацыях неаднойчы бывае, знайшліся адзінкі, якія адразу зарыентаваліся, як пакіраваць справу на карысьць сабе.

Выкарыстоўваючы характэрны для беларусаў жаль па здрадніках, але не дапускаючы іх да каманды, манэўруючы лягернымі непаладкамі, а пазьней і палітычнымі разыходжаньнямі, яны пачалі кананічнымі падманкамі адводзіць даверлівых людзей ад аўтакефаліі ў фактычна імі самымі ачоленую юрысдыкцыю.

Ні на ліквідацыю аўтакефаліі япіскапатам, ані на ейную прыватызацыю вышэй успомненымі адзінкамі сьведамы вагі роднае Царквы ў вызвольным змаганьні, а згуртаваны ў Беларускім Нацыянальным Камітэце ды вакол Рады БНР патрыятычны актыў, аднак, не згадзіўся й пачаў шукаць ратунку з трагічнае сытуацыі.

Адзінай надзеяй на гэты ратунак выявілася Аўтакефальная Праваслаўная Царква братняга Украінскага народу й да Яе была скіраваная просьба па дапамогу паставіць новы беларускі япіскапат, а праз гэта й узнавіць Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву сьпярша за мяжою.

Сынод Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на чале з былым ігуменам Жыраўскага манастыра Мітрапалітам Палікарпам згадзіўся просьбу здаволіць і адпусьціць на кіраваньне ўзнаўленьнем БАПЦ Архіяпіскапа Сяргея, які ў той час знаходзіўся ў Канстанцы, у паўдзённа-заходнім кутку Нямеччыны.

5-га чырвеня (23-га травеня) 1948-га году, у дзень памяці Сьв. Еўфрасіньні Полацкае, у Канстанцу прыбыла дэлегацыя беларускага духавенства й вернікаў на чале з прат. Сьцяпанам Войтэнкам і д-рам Віктарам Войтэнкам, ды, пасьля Сьв. Адправаў, на Саборыку пад старшынствам Я.М. Архіяпіскапа Сяргея прыйняла фармальную пастанову аб узнаўленьні Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы й выбрала Ейнае часовае кіраўніцтва.

50-я ўгодкі гэтае слаўнае падзеі мы цяпер адзначаем.

У гэтым самым часе беларускаму патрыятычнаму актыву пашчасьціла пераканаць абсальвэнта Пражскага Унівэрсытэту інжынера Уладзімера Тамашчыка прысьвяціць ягонае жыцьцё на службу Богу, а праз гэта й Беларускаму Народу.

Да гэтае службы ён і пачаў рыхтавацца, сьпярша сам, а пасьля ў Украінскай Праваслаўнай Духоўнай Акадэміі, што ў тую пору была дзейнай у Мюнхэне.

Пасьля асягненьня неабходнага, зьверанага духоўнымі ўладамі УАПЦ, узроўню багаведнае падрыхтоўкі Уладзімер Тамашчык быў пастрыжаны ў манаскі стан зь імём Васіль, затым паступова ўзьняты да ступені архімандрыта ды ўрэшт 19-га сьнежня 1949-га году ў беларускай царкве ў лягеры Розэнгайм, што ў Баварыі, Першагерархам БАПЦ Архіяпіскапам Сяргеям ды япіскапамі УАПЦ Платонам і Вячаславам усьвячаны ў япіскапскую годнасьць.

Нельга ня ўспомніць, што перад усьвячэньнем Япіскапа Васіля, да Першагерарха УАПЦ Мітрапаліта Палікарпа з пратэстам прыяжджаў зраднік япіскап Апанас, ды Радаслаў Астроўскі, што на дзіва адважыўся ўзнавіць разумна зьліквідаваную ў 1945-м годзе Беларускую Цэнтральную Раду, лістоўна таксама адрайваў ад гэтага кроку.

Іхныя пратэсты, аднак, як сказана вышэй, ня былі ўзятыя на ўвагу й першы этап узнаўленьня БАПЦ быў завершаны.

Узноўленая БАПЦ пачала дзеяць у дзьвёх парахвіях: у беларускім лягеры для ўцекачоў у Розэнгайме, у амэрыканскай акупацыйнай зоне Нямеччыны, дзе вельмі актыўным парахвіяльным жыцьцём кіраваў сам Уладыка Васіль, ды у францускай, сьпярша ў унівэрсытэцкім месьце Тюбінгэне, а пасьля ў лягеры ДП у Мюнсінгэне, дзе пастырскія абавязкі выконваў а. прат. Сьцяпан Войтэнка.

А. прат. Хведар Данілюк, што таксама жыў у францускай зоне, разам з Уладыкам Сяргеям рэпрэзэнтаваў БАПЦ на ладжаных рознымі рэлігійнымі арганізацыямі зьездах духавенства, ліставаўся й сустракаўся з кіраўнікамі, ці прадстаўнікамі нямецкіх і амэрыканскіх цэркваў.

У нялёгкай дзейнасьці Уладыкаў Сяргея й Васіля, ды айцоў Сьцяпана й Хведара, шмат прыкрасьцяў, нажаль, рабіла лаянка й паклёпніцтва з боку раней тут успомненых шчырых і няшчырых пасьлядоўнікаў зраднага япіскапату, ды іхных палітычных супольнікаў.

Неўзабаве, да гэтага, пачалося перасяленьне беларускіх уцекачоў, галоўным чынам у ЗША ды Аўстралію, і дзейнасьць БАПЦ у Нямеччыне спынілася.

У 1950-м годзе ў ЗША выехалі айцы Сьцяпан Войтэнка й Хведар Данілюк, у Аўстралію падаўся а. Міхась Шчурко.

У Аўстралію неўзабаве паехаў і Архіяпіскап Сяргей, а Япіскап Васіль часова застаўся ў Нямеччыне, каб скончыць багаведныя студыі.

Асяліўшыся настала ў ЗША й Аўстраліі сьвятары й вернікі БАПЦ адразу ўзяліся за арганізацыю парахвіяў.

Адна за адной, працягам пару год, паўстаюць яны ў Брукліне, Нью Бранзвіку (пазьней Гайлэнд Парку) і ў Клівэлэндзе, у ЗША.

У Аўстраліі засноўваюцца парахвіі ў Адэляйдзе й Мэльбурне.

У Таронта, што ў Канадзе, таксама арганізуецца царкоўная грамада.

Вернікі БАПЦ у Англіі не застаюцца ад іншых і засноўваюць парахвіі ў Брадфордзе, Манчэстары, Лёндане, Кэмбрыджы ды Бірмінгэме.

Паўстае парахвія БАПЦ і ў Бэльгіі.

Улетку 1951-га году пераяжджае ў ЗША Япіскап Васіль і з тае пары пачынаецца арганізацыя паўночнаамэрыканскае й эўрапэйскае япархіі.

Пасьля пачатных цяжкасьцяў некаторыя парахвіі пакрысе набываюць царкоўныя будынкі і парахвіяльнае жыцьцё ў іх нармалізуецца.

І тут, нажаль, не пакінулі БАПЦ у супакоі атакі пасьлядоўнікаў зраднае герархіі ды супрацоўнікаў аўтакефаліі наагул, што схаваліся пад крыло кананічнае, але абыякавае да нацыянальных царкоўных патрэбаў Беларусі юрысдыкцыі.

Успамінаючы вастрыню й беспадстаўнасьць гэтых нападаў, ды знаходзячы іхныя друкаваныя сьляды, робіцца жаль за нашую прымітыўнасьць.

Не забыліся на БАПЦ і нашыя адвечныя ворагі ды, разумеючы лепш ад большасьці з нас неабходнасьць для існаваньня Царквы япіскапату, скіравалі іхны выцень на Уладыку Васіля.

Выцень быў зарганізаваны завадатаямі, што ўвайшлі ў парахвію Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага бяз уважнейшага сьпярша азнаямленьня зь імі.

Ачольваў іх прайдзісьвет з дыяканскімі пасьветчаньнямі з польскае й маскоўскае юрысдыццыяў, якога Архіяпіскап Васіль, наіўна бачачы ў кожным з паходжаньня беларусе брата, дапусьціў да ўдзелу ў адправах.

Хітрымі намовамі й паклёпамі пры шчодрых пачастунках алкаголям гэты галоўны завадатай з супольнікамі апанаваў амаль цалком парахвіяльную раду, якая абяцаньнем супакою ў парахвіі дамаглася ад Уладыка ягонага ўсьвячэньня ў сьвятарскі стан.

Замест супакою, пэўна-ж, пачалася запраўдная бяда.

Уладыку Васілю была спыненая мізэрная заплата, ягоны ўдзел ў адправах быў узалежнены ад ласкі пастаўленага парахвіяльнай радай "кіраўніком парахвіі" таго-ж самага прайдзісьвета, ды ўрэшт нават уваход у царкоўны будынак яму й лаяльным парахвіянам быў зачынены й забарыкадаваны.

Давялося зьвярнуцца ў амэрыканскі суд, які на аснове XVIII-га Артыкулу Закону аб Рэлігійных Карпарацыях Штату Нью Ёрк, што датычыць БАПЦ, звонку падбухторваную самаволю парахаіяльнае рады спыніў.

Не асягнуўшы цалком іхнае зьнішчальнае мэты бунтаўнікі з часткаю збаламучаных парахвіянаў выйшлі з парахвіі.

Гэтым выхадам, а мо й пазьнейшым паваротам ашуканых тая бяда й скончылася-б, каб не абярнула яе ў прыладу да асягненьня іхных мэтаў частка эміграцыйных "палітыкаў".

Пад іхнай апекай і кіраўніцтвам разьюшаныя раскідальнікі былі зацугляныя ў варожую да тае, дзе былі, плыні грамадзка-палітычную арганізацыю ды ўпакораныя да будовы, немалым коштам для кожнага, парахвіяльнае царквы абыякавае да беларускіх нацыянальных патрэбаў юрысдыкцыі.

Сёньня, пасьля 30 год, тае арганізацыі ня чуваць, а "кананічную" парахвію залівае расейская хваля, якой і дастанецца беларускі здабытак.

Колькі-ж за гэтыя гады можна было-б зрабіць для Беларускае Справы, каб былі разам?!

Ня гледзячы на закалот у Брукліне, жыцьцё ў іншых

парахвіях ішло нармальна, а ўся БАПЦ атрымала у 1968-м годзе двох новых япіскапаў: Андрэя й Мікалая.

Да гэтага, з прыймом пад апеку звыш 10-ці грэцкіх парахвіяў, дасюль вельмі цяжкія жыцьцёвыя ўмовы Архіяпіскапа Сяргея ў Аўстраліі значна палепшалі.

Ды й у Брукліне рана ад расколу пачала загойвацца й парахвіяльнае жыцьцё варочацца да звычайнага парадку.

Гэтае зацішша 6-га чырвеня 1970-га г. пяруном ускалынула царкоўнымі непарадкамі прысьпешаная, ды ўсё-ж нечаканая сьмерць сьв.пам. Архіяпіскапа Васіля.

Пасьля яе кіраўніцтва БАПЦ у ЗША перайняў Архіяпіскап Андрэй і цэнтр дзейнасьці гэтага кіраўніцтва перанёсься ў Клійлэнд.

2-га кастрычніка 1971-га году, на 82-м годзе жыцьця, памёр і Архіяпіскап Сяргей ды абавязкі першагерарха паводле старшынства хіратоніі абняў Архіяпіскап Андрэй, які неўзабаве выявіў немалыя арганізатарскія й адміністратарскія здольнасьці.

Бяз доўгага бо адкладу, ужо ў канцы травеня 1972-га году ў Гайлэнд Парку, Н.Дж. быў скліканы 2-гі Сабор, на якім БАПЦ былаператвораная ў мітраполію й Ейным першым мітрапалітам быў выбраны сам Архіяпіскап Андрэй, быў таксама прыйняты царкоўны статут ды выбраныя цэнтральныя кіраўнічыя органы.

Неўзабаве Мітраполія БАПЦ была падзеленая на 2 япархіі: паўночна-амэрыканскую зь Мітрапалітам Андрэям на чале ды канадзка-эўрапэйскую й аўстралійскую, якую ачоліў Архіяпіскап Мікалай.

З упарадкаванай адміністрацыйнай структурай і праўным парадкам БАПЦ пачала працаваць ды разьвівацца нармальнымі каляінамі, і тэмпамі.

Гэтае разьвіцьцё было соляй увачу, як непрыяцеляў Мітрапаліта Андрэя сярод свае эміграцыі, што не хацелі згадзіцца зь ягонай незалежнасьцяй ад палітыканства, гэтак і заўсёдных нашых вонкавых ворагаў.

Непрыязьнь ды варожасьць, пэўна-ж, чакала нагоды на расправу.

Гэтай нагодай стала заплянаваная Мітрапалітам Андрэям, зь ягонае дбайнасьці праз умацаваньне БАПЦ павялічэньнем колькасьці Ейных япіскапаў, хіратонія ўсьвячананага ў духоўніцкі стан інжынера Яна Бруцкага.

Дзеля гэтага ўсьвячэньня была патрэба забясьпечыць кандыдата магчымасьцяй здабыцьця багаведнае асьветы, што можна было асягнуць ягоным прызначэньнем на кіраўніка блізкае да духоўнае сэмінарыі парахвііі ў Гайлэнд Парку ды пераносам кіраўніка, які быў там, на парахвію ў Клійлэньдзе.

Разам з гэтым Мітрапаліт Андрэй спадзяваўся, што ранейшая грамадзкая дзейнасьць інж. Я. Бруцкага будзе добрым задаткам на ягонае супрацоўніцтва дзеля карысьці Беларускае Справы з эміграцыйнымі арганізацыямі ў галоўным цэнтры амэрыканскага нацыянальнага жыцьця, г.зн. у ваколіцах Нью Ёрку.

Пляны, нажаль, давялося ўжыцьцяўляць наўсуперак бязглуздаму супраціву эміграцыйных палітычных колаў, што наважылі нятолькі не дапусьціць да хіратоніі а. Яна Бруцкага, але й скінуць Мітрапаліта Андрэя ды паставіць на ягонае мейсца архіяпіскапа Мікалая.

З сумам трэба сказаць, што архіяпіскап Мікалай на гэтую юдавую работу згадзіўся ды яе дакладна паводле інструкцыяў выконваў.

Не зважаючы на ўсе ягоныя брыдкія намаганьні да хіратоніі не дапусьціць а. Ян Бруцкі, пры дапамозе Украінскае Праваслаўнае Царквы ў ЗША, быў 21-га лютага 1981-га году ўсьвячаны ў япіскапскую годнасьць.

Гэткім чынам быў створаны Сабор Япіскапаў БАПЦ, які пасьля сяміразовых няўважаных архіяпіскапам Мікалаям заклікаў зьявіцца на паседжаньні ды выпраўдаць, або спыніць ягоную шкодную дзейнасьць, урэшце ў 1983-м годзе зьняў зь яго нятолькі япіскапскую, але й наагул усялякую духоўніцкую годнасьць.

У адказ на пастанову Сабору Япіскапаў БАПЦ б. архіяпіскап Мікалай пачаў тварыць дублёвыя кіраўныя царкоўныя органы ды ўрэшт усуперак забароны Мітрапаліта Андрэя склікаў на канец травеня 1983-га г. ў Клійлэньдзе "надзвычайны сабор" ягоных прыхільнікаў.

На ашуканскую ўдачу тыдзень перад гэтым няпраўным зборышчам, пасьля кароткае хваробы, 21-га травеня 1983-га г. памёр Мітрапаліт Андрэй і скліканыя б. архіяпіскапам Мікалаям хвальшывыя дэлегаты, не зважаючы на страту ім япіскапскае годнасьці, абвесьцілі яго першагерархам БАПЦ.

Гэты падман, дзякуючы манаполю на інфармацыю палітычных эміграцыйных дзейнікаў, што ймкнуцца выкарыстоўваць БАПЦ для іхных мэтаў, трывае й дасюль за мяжою й на Бацькаўшчыне.

Цалком, затое, замоўчваецца факт, што, на паводле царкоўных правілаў скліканым 23-га травеня 1984-га г. у Манчэстары, што ў Англіі, чарговым 3-м Саборы БАПЦ на Ейнага Мітрапаліта й Першагерарха быў выбраны Архіяпіскап Ізяслаў.

Ігнараванай тымі-ж палітычнымі эміграцыйнымі дзейнікамі й іхнымі блізьнюкамі ў Краі ды паслухмяным ім інфармацыйным манаполям была й дасюль застаецца таксама справа ўзнаўленьня БАПЦ у Беларусі.

Зь бязьдзейнасьцяй у гэтай справе ды замоўчваньнем яе, відаць, пагадзіўся й эманам пастаўлены эміграцыйнымі палітыкамі на "мітрапаліта й першагерарха БАПЦ" былы архіяпіскап Мікалай (Міхась Мацукевіч), бо, маючы нагоду падчас падарожжа ў Беларусь у 1992-м годзе пачаць там адбудову БАПЦ, замест таго падлашчваўся да мітрапаліта Філарэта, каб стаць зь ім "разам і ўпоравень", ды займаўся турыстычным аглядам.

Сьледам за ім пачалі наведвацца да маскоўскага экзарха эміграцыйныя й краёвыя беларускія палітыкі, ды так ачараваліся ім, што яшчэ зусім нядаўна трызьнілі аб ягонай дапамозе рабіць беларускую справу, калі вернецца незалежнасьць.

Затое зь Я.М. Мітрапалітам Ізяславам ды вернікамі, што хацелі пачаць узнаўленьне БАПЦ у Краі ніхто не хацеў нятолькі супрацоўнічаць, але й гаварыць.

Вынікі, пэўна-ж, атрымаліся такія, якіх ад палітычнага партацтва й трэба было спадзявацца.

Ня зьнеахвоцілі яны, аднак, Кіраўніцтва БАПЦ зь Першагерархам Я.М. Мітрапалітам Ізяславам на чале, ды вернікаў, як за мяжою, гэтак і ў Краі, куды дайшоў кліч роднае Царквы, і ўсе разам, наўсуперак цяжкасьцям і пагрозам, пачалі талаку на адбудову Божым правам дадзенае свае нацыянальнае духовае Сьвятыні.

Міласьцівы Бог і наш Збавец Ісус Хрыстос, ды Ягоная ў Жыраве аб'яўленая Маці, выпрабаваўшы нашую навагу ў гэтай дагоднай Ім Справе, не адмовяць Іхнае дапамогі нам нашую Мэту асягнуць.

Б. Шчарыч

## ПАХОВІНЫ ЯПІСКАПА УПЦ У ЗША

3-га лютага г.г. у Міннэапалісе, Мінэсота, памёр япіскап Украінскае Праваслаўнае Царквы ў ЗША (Канстантынопальскі Патрыярхат) Прсв. Паісі, якога ў 1989-м годзе ўсьвяцілі ў япіскапа сьв. пам. Патрыярх УПЦ Мсьціслаў і Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў.

Сьв. Літургію й пахавальную адправу 10-га лютага ў царкве Сьв. Ап. Андрэя Першпакліканага ў Баўнд Бруку, Н.Дж. разам зь Мітрапалітам УПЦ Канстантынам і архіяпіскапамі Антоніям, ды Усеваладам служыў І Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў.

Нябожчык пахаваны на ўкраінскіх праваслаўных могілках у Баўнд Бруку, Н.Дж.

# МІТРАПАЛІТ АНДРЭЙ КРЫТ

**1901** (ДА 15-Х УГОДКАЎ СЬМЕРЦІ) **1983**



Сьв. пам. Мітрапаліт Андрэй нарадзіўся 3-га ліпеня 1901-га году ў сялянскай сям'і з бацькоў Пётры й Тэклі Крыт, што жылі ў вёсцы Мархачоўшчына, Стаўпецкага павету.

Ахрышчаны быў імём Аляксандар.

Асьвету пачаў здабываць у пачаткавай школе ў родным сяле, а пасьля ў г.зв. дзьвюхклясовай міністэрскай школе ў Новым Сьвержані.

З пачаткам вайны ў 1914-м годзе нармальныя зайняткі ў гэнай школе перарваліся й навука маладога Аляксандра спынілася ажно да 1918-га году, калі ён падаўся ў адчыненую тады ў Новым Сьвержані гімназыю, зь якое пасьля 5-е клясы перайшоў у гімназыю ў Нясьвіжы, дзе ўвесну 1924-га году атрымаў атэстат сьпеласьці.

Нажаль сярэдняя асьвета ўва ўмовах польскае акупацыі не давала беларусам магчымасьці ўладзіцца на працу, ані адчыняла дзьвярэй ў вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Таму Аляксандар Крыт прабаваў паехаць разам зь іншымі маладымі беларусамі на ўнівэрсытэцкую навуку ў чэскай Празе, але на гэта ня здолеў займець дастаткова грошай, ані атрымаць выязднога дазволу ад уладаў.

Не зважаючы на гэтую няўдачу пабожна ўзгадованы юнак ня стаў прыхільнікам пракамуністычных настрояў, што тады былі пашыраныя ў зайнятай палякамі частцы Беларусі, ды не пайшоў шукаць асьветы й лепшае долі ў БССР, як гэта рабіла шмат іншых, а ўлучыўся ў арганізаваную беларускую культурна-асьветную дзейнасьць ў сваёй ваколіцы.

У 1927-м годзе, з надзеяй на адчыненьне беларускіх школаў, што іх дамагалася насельніцтва, Таварыства Беларускае Школы адчыніла ў Радашкавічах настаўніцкія курсы, якія скончыў і Аляксандар Крыт.

Нажаль, замест каб адчыніць новыя беларускія школы, польскія ўлады неўзабаве зьліквідавалі й тыя, што былі дагэтуль й Аляксандар надалей застаўся жыць бяз працы пры бацьках.

Пасьля нейкага часу ў Новым Сьвержані замежнай фірмай быў закладзены тартак, на якім пашчасьціла ўладзіцца на працу й Аляксандру Крыту.

На гэтым становішчы ён выявіў сябе гэтак спраўна, што здабыў прыхільнасьць нямецкага кіраўнога пэрсаналу, які згадзіўся дапамагчы яму ўладзіцца на студыі ў Бэрлінскай палітэхніцы.

Заходы ў гэтай справе былі пасьпяховыя, але выявілася, што легальны выязд з Польшчы непасрэдна ў Нямеччыну немагчымы й давялося сьпярша ехаць на працу ў Латвію, а адтуль ужо ў Бэрлін.

Але й гэтта яму не пашчасьціла здабыць вышэйшую асьвету, бо на падрыхтоўчых курсах да зайняткаў у палітэхніцы застала яго ў 1939-м годзе нямецка-польская вайна, з прычыны якое замест студыяў давялося ўлучыцца ў натужную нацыянальную працу ўва ўмовах ваеннага становішча ў таталітарнай краіне.

У выніку борздага разьбіцьця польскага войска ў нямецкім палоне апынуліся тысячы змабілізаваных палякамі беларусаў, якіх з жорсткага лягернага рэжыму, немцы, калі знаходзіўся нехта гэтага дамагчыся, выпускалі на працу ў хвабрыках і ў сельскай гаспадарцы.

Гэткай дзейнасьцяй і пачало займацца створанае былым консулям БНР Андрэям Бароўскім, студэнтам палітэхнікі Анатолям Шкуткам ды іншымі, у тым ліку й Аляксандрам Крытом Беларускае Прадстаўніцтва (Weissruthenishe Vertraungsstelle).

Апрача таго, дзеля ўмацаваньня нацыянальнае сьведамасьці, утрыманьня сувязі паміж раськіданымі па абшары ўсяе дзяржавы суродзічамі ды маральнае падтрымкі ім у нялёгкіх абставінах прымусовае працы, была патрэбная й свая газэта, якую пад назовам "Раніца" неўзабаве стаў выдаваць згуртаваны вакол Прадстаўніцтва беларускі актыў у Бэрліне.

Калі ў 1941-м годзе пачалася ды затым зацягнулася нямецка-савецкая вайна Беларускаму Прадстаўніцтву пабольшала ў шмат разоў абавязкаў ў заступніцтве за беларускія інтарэсы ды ў вабароне й дапамозе шмат якім паасобным беларусам у чужой і няпрыхільнай краіне.

Вялікі ўклад у гэтую справу зрабіў і Аляксандар Крыт.

Пасьля капітуляцыі Нямеччыны ў 1945-м годзе Аляксандар Крыт апынуўся ў ангельскай акупацыйнай зоне, дзе ў створанай у лягеры для беларускіх ваенных уцекачоў у Ватэнштэце гімназыі выкладаў матэматыку й геаграфію.

Разам з гэтым ён актыўна ўдзельнічаў ува ўсіх праявах беларускае нацыянальнае дзейнасьці ў Нямеччыне.

Калі ўрэшце ваенным уцекачам адчыніліся магчымасьці выяжджаць на працу й сталы побыт у заходніх краінах, Аляксандар Крыт у 1948-м годзе падаўся ў Англію.

Гэтам, не зважаючы на цяжкую фізычную працу, ён адразу далучыўся да арганізаванае беларускае дзейнасьці сярод былых вайскоўцаў зь разьвязанага польскага корпусу гэнэрала Андэрса.

У гэтым часе ў Нямеччыне пачынаецца ўзнаўленьне Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы й у душы Аляксандра Крыта ажываюць яшчэ ў маладосьці ўзьніклыя імкненьні служыць свайму народу працай на Божай ніве й ён пачынае рыхтавацца да сьвятарскіх абавязкаў, ды гатаваць грунт да адкрыцьця парахвіяў БАПЦ у Вялікай Брытаніі.

Улетку 1950-га году жылых у Англіі беларусаў наведаў Япіскап Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Васіль і, знайшоўшы там спрыяльныя ўмовы дзеля стварэньня беларускіх праваслаўных парахвіяў ды высокі ўзровень гатовасьці Аляксандра Крыта на ачоленьне іх, 25-га чырвеня 1950-га году ўсьвяціў яго ў сьвятарскі стан.

Сустрэчы зь япіскапам роднае Царквы й пастаўленьне ім беларускага сьвятара выклікала рэлігійны ўздым сярод вернікаў і неўзабаве ў Брадфордзе быў куплены грамадзкі дом ды ў ім уладжаная капліца першае парахвіі БАПЦ на ангельскай зямлі.

Усьлед арганізаваліся таксама царкоўныя асяродкі ў Манчэстары, Лёндане, Кэмбрыджы й Бірмінгэме, якія па чарзе наведваў а. Аляксандар.

Божыя Службы, што ён тады адпраўляў у беларускіх асяродках былі яму й тым, што яму памагалі, ўзнагародай за цяжкую працу закладаньня царкоўнага жыцьця пачынаючы ад найменшае парахвіяльнае дробязі да стварэньня вікарыяльнае ўправы БАПЦ у В. Брытаніі.

Пастырская ахвярнасьць і арганізацыйныя здольнасьці а. Аляксандра зьвярнулі на яго ўвагу вернікаў БАПЦ

у Кліўлэньдзе й на іхнае жаданьне ён з архіпастырскага дазволу у пачатку 1961-га году пераехаў у ЗША ды абняў кіраўніцтва кліўлендзкае парахвіі Жыраўскае Іконы Божае Маці.

Пастырскую апеку над вернікамі БАПЦ у Англіі пасьля а. Аляксандра ўзяў на сябе а. Ян Абабурка.

На новым мейсцы а. Аляксандар і ўзноў выявіў сябе нятолькі як дбайны пастыр, але й як добры арганізатар парахвіяльнага жыцьця, у выніку чаго было скончанае нутраное абсталяваньне й упрыгожаньне новапабудаванае царквы, узьнялася ўрачыстасьць адправаў, пабольшаў абсяг навукі веры дзяцей і моладзі, ды наладзілася таварыскае жыцьцё.

Асаблівым ягоным асягненьнем трэба лічыць адкрыцьцё ў Кліўлэньдзе з дапамогай рэгента хору Канстанціна Кіслага 2-х гадовых пастырска-рэгенцкіх курсаў, наведнікі якіх і сёньня займаюць кіраўнічыя становішчы ў парахвіі.

Дзейнасьць а. Аляксандра не абмяжоўвалася, аднак, парахвіяльнымі інтарэсамі, ён браў актыўны ўдзел і ў арганізацыі, ды працы, як паўночна-амэрыканскае япархіі БАПЦ, гэтак і ўсяе Царквы.

Усе гэтыя ягоныя заслугі былі належна ацэненыя япіскапатам БАПЦ, які ў канцы 1967-га году пастанавіў усьвяціць яго ў япіскапскую годнасьць.

11-га лютага 1968-га году а. Аляксандар Крыт у сэрбскай праваслаўнай царкве ў Адэляйдзе, што ў Аўстраліі, Першагерархам БАПЦ Я.М. Архіяпіскапам Сяргеям быў прыйняты ў манаскі стан зь імём Андрэя ды ўзьняты ў ступень архімандрыта.

15-га лютага таго-ж году у грэцкім Саборы Сьв. Архістратэга Міхайла Першагерарх БАПЦ Я.М. Архіяпіскап Сяргей з сэрбскім япіскапам Я.М. Зьмітрам усьвяцілі архімандрыта Андрэя Крыта ў япіскапскую годнасьць з прызначэньнем на гарадзенска-наваградзкі й кліўлэндзкі пасад.

Дзеля зразуменьня пазьнейшых падзеяў трэба тут успомніць, што, як было напісана ў папярэднім нумары "Ц.П." з нагоды 40-гадовага юбілею Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага, у Брукліне ў тую пару йшло змаганьне супраць варожае спробы захапіць парахвію й павадыры гэтае спробы зьвярнуліся да а. Аляксандра па падтрыманьне іхнае авантуры.

Не схацеўшы пакаяцца, падтрыманьня яны не атрымалі, але факту звароту хапіла, каб выклікаць пратэсты ад больш з варам, як з розумам у галовах эміграцыйных палітыкаў супраць хіратоніі Я.М. Япіскапа Андрэя ды іхную пазьнейшую да яго непрыязьнь.

Дарэчы, злосьць на яго за няпрошаны ім кантакт, ня перашкодзіла пазьней тым-жа палітыкам папрасіцца ў падсусядзі да тых самых разбуральнікаў, на якіх раней з гэткім гармідарам ішлі вайною.

Пасьля хіратоніі Уладыка Андрэй далей кіраваў кліўлендзкай парахвіяй ды выконваў абавязкі вікарнага япіскапа БАПЦ у Амэрыцы й Эўропе.

6-га чырвеня 1970-га году нечакана памёр сьв. пам. Архіяпіскап Васіль і Уладыку Андрэю давялося абняць кіраўніцтва амэрыканскае й эўрапэйскае япархіі БАПЦ.

28-га ліпеня 1970-га году загадам Першагерарха БАПЦ Я.М. Архіяпіскапа Сяргея Япіскап Андрэй быў узвышаны ў годнасьць архіяпіскапа.

Не пасьпела яшчэ загаіцца рана страты сьв. пам. Архіяпіскапа Васіля, як 1-га кастрычніка 1971-га году памёр Першагерарх БАПЦ сьв. пам. Архіяпіскап Сяргей і Уладыку Андрэю давялося часова стаць на чале ўсяе нашае Царквы.

Імкнучыся заступіць часовае кіраўніцтва сталым Архіяпіскап Андрэй склікаў у канцы травеня 1972-га году ў Гайлэнд Парку, Н.Дж. 2-гі Сабор БАПЦ.

На Саборы, пасьля таго, як япіскап Мікалай зьняў ягоную кандыдатуру, Архіяпіскап Андрэй быў абраны на Першагерарха Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы з тытулам Мітрапаліта.

Сабор таксама прыйняў Статут БАПЦ і выбраў Раду, ды Кансысторыю Мітраполіі.

Ачоліўшы БАПЦ Мітрапаліт Андрэй выявіў добрыя адміністрацыйныя здольнасьці ды нямала асягнуў у разбудове нашае Царквы ды наладжаньні лучнасьці зь іншымі Праваслаўнымі Цэрквамі.

У тым-жа 1972-м годзе ён наведаў Англію й усьвяціў там у сьвятарскі стан а. Яна Пякарскага.

Зь ягонай падтрымкай і заахвочаньнем былі купленыя царкоўныя будынкі ў Манчэстары, што ў Англіі, Іст Пойньце, у ЗША, Мэльбурне, у Аўстраліі, ды дабудаваныя парахвіяльныя залі ў Мэльбурне й Адэляйдзе, таксама ў Аўстраліі.

Нямала ўвагі й працы Мітрапаліт Андрэй прысьвяціў на выданьне рэлігійнае літаратуры.

Разам з усім гэтым ён не дазваляў эміграцыйным палітычным дзейнікам мяшацца ў царкоўнае жыцьцё, што не паспрыяла ягонай папулярнасьці ў гэтых абыякавых да веры колах.

Займала думкі Мітрапаліта Андрэя й справа будучыні БАПЦ, а зь ёю й патрэба павялічэньня колькасьці Ейных япіскапаў, безь якіх ня можа йснаваць Царква.

Пайсьці на гэткі шлях служэньня Богу й Бацькаўшчыне ўдалося яму пераканаць актыўнага тады ў царкоўным і грамадзкім эміграцыйным жыцьці інжынера Яна Бруцкага.

Каб стаць япіскапам кандыдат, аднак, патрабаваў праваслаўнае багаведнае асьветы, здабыць якую можна было адно ў Украінскай Праваслаўнай Сэмінарыі, ў Баўнд Бруку, Н.Дж., зусім недалёка ад парахвіі БАПЦ у Гайлэнд Парку.

З гэтай мэтай Мітрапаліт Андрэй увосень 1979-га году перанёс кіраўніка парахвіі ў Гайлэнд Парку Аляксандра Яноўскага ў Кліўлэнд, чаго, дарэчы, прасіла там парахвія, а на ягонае мейсца прызначыў ужо усьвячанага ў сьвятарскі стан а. Яна Бруцкага.

За гэтую, звычайную у царкоўным жыцьці падзею, і схапілася палітычная апазыцыя да Мітрапаліта Андрэя, (а за ёю, пэўна-ж, і варожая сіла), каб, як выявілася, зьняславіўшы Першагерарха, скінуць яго з пасаду, не зважаючы на шкоду, якую гэткі крок зробіць БАПЦ і ўсёй Беларускай Справе.

Нажаль, ня ўстояўшы пад націскам недабачлівых палітыкаў, ачоліць гэтую гнюсную юдавую работу згадзіўся тадышні архіяпіскап Мікалай і так зашчыраваў у ёй, што раскалоў БАПЦ на дзьве часткі, зь якіх тая, што пайшла за ім дасюль змагаецца супраць сваіх-жа братоў беларусаў куды мацней, як супраць маскалёў.

Сорам з гэтага няшчасьця нятолькі ў тым, што яно выявіла поўную нягоднасьць эміграцыйных палітыкаў думаць дзяржаўнымі катэгорыямі, але яшчэ й у тым, што на падмацаваньне "аргумэнтаў" іхнымі памагатымі была ўжытая фізычная сіла.

Не зважаючы на яе, ані на ягоную хваробу й матэрыяльную нястачу Мітрапаліт Андрэй із зайнятых ім законных пазыцыяў не адступіў нават, калі з гэтае прычыны давялося пакінуць Кліўлэнд і затрымацца ў вернай правілам і мэтам БАПЦ парахвіі ў Брукліне.

Пад апекай вернікаў гэтае парахвіі й у іхнай, ды ўсіх неспакушаных на блага вернікаў БАПЦ пашане й адыйшоў ён да Божага Пасаду 21-га травеня 1983 -га г.

Памяць гэтага выдатнага архіпастыра й пакутніка ад няцямных, што робяць, застанецца назаўсёды на бачынах гісторыі БАПЦ і Беларускага Народу.

Я. Сланімец

# АЙЦЕЦ ПРАТАПРАСЬВІЦЕР ВАСІЛЬ КЕНДЫШ

(ДА 90-Х УГОДКАЎ ДНЯ НАРАДЖЭНЬНЯ)

З Божае ласкі ў палове сакавіка г.г. збылося 90 год з дня нараджэньня заслужанага на беларускай царкоўнай і грамадзкай адраджэнскай ніве дзеяча а. пратапрасьвіцера Васіля Кендыша.

Вітаючы з гэтае нагоды чэсьці годнага юбіляра лічым абавязкам пазнаёміць нашых чытачоў з жыцьцём гэтага добрага пастыра й выдатнага патрыёта.



Айцец пратапрасьвіцер Васіль Кендыш нарадзіўся ў сялянскай сям'і з бацькоў Мікалая й Юстыны 16 (3)-га сакавіка 1908-га году ў вёсцы Чарапы, тады Грыцавіцкае воласьці, Слуцкага павету, Менскае губэрні.

Пасьля 4-х клясавае расейскае школы, калі ягонае роднае сяло ў 1920-м годзе адыйшло да Польшчы, пайшоў на навуку ў расейскую гімназыю, да закрыцьця якое скончыў 3 клясы.

Далей вучыўся ў беларускай гімназыі, што адчынілася ў 1924-м годзе ў Клецку, якую і скончыў у 1929-м, ды ўсьлед прайшоў яшчэ курс вышэйшае тэхнічнае школы ў Вільні.

Разам з адукацыяй і беларуская справа заўсёды была дарагая ягонаму сэрцу й ён, ня гледзячы на варожасьць польскае ўлады, служыў ёй арганізуючы драматычныя гурткі й хоры, ды аб'яжджаючы зь імі ваколіцы.

Як ведама, нятолькі нацыянальнае, але й прыватнае жыцьцё беларусаў, пад польскім займом было цяжкое, як духова, гэтак і эканамічна.

Дазнаў акупанцкае несправядлівасьці й малады Васіль Кендыш, доўга застаючыся бяз працы, покуль ня здарыла ўладзіцца наглядчыкам мэліярацыйных працаў пры асушэньні рэчкі Грыўда ў Слонімскім павеце.

Але й гэтая праца трывала коратка й у 1936-м годзе давялося ўрэшт паехаць памагаць дзядзьку, што меў вадзяны млін у Варшаўскім ваяводзтве.

З пачаткам вайны ў 1939-м годзе ён вярнуўся дамоў і пры савецкай уладзе пачаў працаваць настаўнікам у мяйсцовай сяміклясовай школе.

Настаўніцкую працу прадаўжаў у Стаўпецкім павеце й пры немцах, ды адначасна браў удзел у дзейнасьці Беларускае Самапомачы й у іншых праявах беларускага нацыянальнага жыцьця.

Ў гэтым часе ажаніўся з Марыяй Яськевіч.

У 1944-м годзе апынуўся зь сям'ёю ў Нямеччыне, дзе пасьля вайны стаў актыўным арганізатарам беларускага грамадзкага жыцьця ды ўдзельнікам узнаўленьня Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Быў таксама настаўнікам у беларускай школе ў адным зь беларускіх уцякацкіх лягероў.

У верасьні 1949-га году пераехаў у Амэрыку, дзе сьпярша жывучы ў Нью Ёрку, а пасьля ў Нью Джэрсы ды ўрэшт у штаце Масачусэтс быў дзейным працаўніком беларускіх арганізацыяў.

Памагаючы ў разбудове БАПЦ на амэрыканскім кантынэньце адчуў пакліканьне да сьвятарскае службы й пачаў да яе рыхтавацца.

Выверaны ў дастатковасьці ведаў быў сьв. пам. архіяпіскапам Васілём 10-га сьнежня 1967-га году у царкве Жыраўскае Йконы Божае Маці ў Гайлэнд Парку, Н. Дж. усьвячаны ў сьвятарскі стан.

Ад 1968-га да 1973-га году кіраваў парахвіяй БАПЦ ў Гайлэнд Парку, Н.Дж., ды ўсьлед да 1981-га году быў кіраўніком парахвіі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, даяжджаючы ажно йз штату Масачусэтс на адправы.

За прыкладную сьвятарскую службу быў адзначаны ўсімі духоўніцкімі ўзнагародамі з завяршэньнем іх годнасьцяй пратапрасьвіцера.

У 1972-м годзе на II-м Саборы БАПЦ у Гайлэнд Парку, Н. Дж. быў выбраны сакратаром кансысторыі й, нягледзячы на бясконцыя нястачы царкоўнага жыцьця ды ўрэшт і на разбуральніцкую атаку на япіскапат БАПЦ, выдатна выконваў ягоныя абавязкі ажно да адыходу на супачын у 1996-м годзе.

Жыцьцё й пастырская, ды патрыятычная дзейнасьць а. пратапрасьвіцера Васіля Кендыша варты перайманьня ў пору нашае царкоўнае й нацыянальнае бяды прыклад ахвярнасьці ў служьбе Богу й Бацькаўшчыне.

Няхай-жа наш Збавец Ісус Хрыстос праз малітвы ў Жыраве аб'яўленае Божае Маці й усіх Сьвятых Беларускае Зямлі прадоўжыць лік дзён а. Васіля на зямлі ды дасьць яму дажыць іх у заслужаным супакоі й пашане.

# ПАРАХВІЯЛЬНЫ СХОД КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА

У нядзелю, 22-га лютага г.г. пасьля Сьв. Літургіі адбыўся Парахвіяльны Сход Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

Сход пачаў малітвай і заклікам Божае дапамогі ў нарадах Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў.

Усьлед хвілінай цішыні была ўшанаваная памяць парахвіянаў, што пасьля апошняга сходу адыйшлі у вечнасьць.

На старшыню сходу быў выбраны сп. Анатоль Тальянскі, а на сакратара сп. Юры Васілеўскі.

Пад іхным кіраўніцтвам была прыйнятая пастанова аб правамоцнасьці сходу, зацьверджаны парадак дня й праслуханы, ды адобраны запіс папярэдняга сходу.

Далей былі выслуханыя справаздачы зь дзейнасьці сяброў дасюляшняе Парахвіяльнае Рады.

Бяручы на ўвагу цяжкасьці, што вынiклі з адыходу ад парахвіяльнага жыцьця старэйшае эміграцыі й нясканчанае замены яго новым сход ухваліў дзейнасьць дасюляшняе Рады ў складзе: Р. Гарошка - старшыня, Б.Данілюк - сакратар, Ул.Курыла - скарбнік і Ю.Касьцюкевіч, П.Швэд ды сьв.пам. М. Войтэнка - сябры, ды выказаў ёй падзяку.

У новую Парахвіяльную Раду былі выбраныя сп. сп. Р.Гарошка, А.Тальянскі, Ю.Васілеўскі, Ю.Касьцюкевіч, Б.Данілюк ды яшчэ трох сяброў з новае эміграцыі, імёны якіх із зразумелых прычынаў не падаем.

Пасьля гэтага былі заслуханыя інфармацыі сп-ні М. Данілюк аб стане й працы парахвіяльнага сястрыцтва ды сп-ні А. Сёмуха аб дзейнасьці іміграцыйнага адзьдзелу Кансысторыі БАПЦ, якім яна кіруе й дзякуючы якому частка парахвіянаў сабору змагла застацца ў ЗША.

Урэшце адбылася дыскусія над плянам працы на будучыню, у якім навука веры, сацыяльная дапамога ды рамонт царкоўнага будынку займаюць галоўныя мейсцы.

Сход закончыўся малітвай й архіпастырскім пажаданьнем Божага прыняньня ўдзельнікам нарадаў.

## СЬВЯТКАВАНЬНЕ 80-Х УГОДКАЎ БНР У КАТ. САБОРЫ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА

Парахвія Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ладзіла сьвяткаваньне 80-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі ў крыжапаклонную нядзелю, 22-га сакавіка 1988-га году.

Сьв. Літургію ды ўсьлед малебен за вызваленьне зьняволеных з адумыслова выбранымі на гэтую нагоду сьпевамі адправіў Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў.

Перад малебнам Уладыка сказаў кароткае слова аб значаньні ўшаноўванага сьвята ды заклікаў прысутных маленьнікаў зьвярнуцца да Бога з гарачай просьбай, каб зь Ягонае ласкі вызначаная Актам 25-га Сакавіка 1918-га году Мэта якнайхутчэй збылася.

Пасьля адправаў у парахвіяльнай залі пачаў працаваць буфэт з прыгатаванымі сястрыцтвам смачнымі закускамі, частуючыся якімі з прынагоднай чаркай віна прысутныя сьпевам "Дай, Божа, шмат год!" выявілі іхныя добрыя пажаданьні аднаму з найдаўнейшых і найбольш актыўных парахвіянаў, сп. Барысу Данілюку, з увагі да ягонага 75-ці годзьдзя.

Сьвяткавальны сход, прывітаўшы прысутных, адчыніў заступнік старшыні Парахвіяльнае Рады сп. Анатоль Тальянскі ды папрасіў Я.М. Мітрапаліта Ізяслава пачаць урачыстасьць малітвай.

Усьлед сп. Тальянскі коратка, але пачуцьцёва адзначыў вагу дзяржаўнатворчых падзеяў 1918-га году ды запрасіў расказаць аб іх дакладней з трыбуны сп. Андрэя Падлескага.

Новы ў Нью Ёрку малады прамоўца, сп. Падлескі, не абцяжваючы ягонага слова колькасьцяй фактаў, патрапіў зрабіць слухачоў у думках удзельнікамі ды прадаўжальнікамі гістарычных падзеяў пачатку змаганьня за дзяржаўную незалежнасьць Беларусі, за што атрымаў шчодрыя воплескі.

Усьлед прамовіў сп. Юры Васілеўскі, кажучы, што беларускае вызвольнае змаганьне адбываецца нятолькі на палітычнай арэне, але й на няменш важнай ды зусім недацэненай ні ў Краі, ані ў эміграцыі царкоўнай ніве.

Затое Маскоўскі Патрыярхат, а таксама іншыя чужыя цэрквы й сэкты гэта разумеюць, ды не шкадуюць ні людзкіх, ані матэрыяльных рэсурсаў, каб сабе перамогу ў змаганьні за наш Край забясьпечыць.

Узмоцненую абарону ў ваблічы гэтае навалы ды дзейнасьць на Ейнае ўзнаўленьне на Бацькаўшчыне пачала Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ды нястача матарыяльных сродкаў, нажаль, не дазваляе справіцца нават з самымі неабходнымі патрэбамі.

Каб памагчы ў гэтай бядзе нядаўна быў заснаваны Фонд Узнаўленьня БАПЦ на Беларусі, які, дзякуючы ахвярнасьці нашых парахвіянаў, ужо здолеў скіраваць на падмогу ў нашай царкоўнай справе невялікія задаткі.

Памагчы прадоўжыць ды павялічыць гэтую дапамогу іхнымі ахвярамі й заклікаў прысутных сп. Васілеўскі.

Усьлед за ім сп. А. Тальянскі перапрасіў прысутных, што, зь немагчымасьці ззаі сьнежнае завеі даезду артыстаў, канцэрту ня будзе ды выклікаў на сцэну сп. Б. Данілюка, які прачытаў верш Уладзімера Дубоўкі "За ўсе краі, за ўсе народы сьвету...", што стаў прычынай 28-мі гадовага зьняволеньня паэта.

Пасьля гэтага ўсе прысутныя разам прапяялі песьні "Люблю наш Край" ды пры акампаніямэньце сп. І. Кавальчука "Пачуй, о, Ласкавая Маці".

Падзякай сп. А. Тальянскага прысутным за прыбыцьцё, архіпастырскай просьбай Божага прыняньня ім ды адпяяньнем нацыянальнага гімну сьвяткаваньне скончылася.

Ягоныя ўдзельнікі, аднак, яшчэ доўга ў сяброўскіх гутарках цешыліся куточкам роднага краю на чужыне.



СЬВ. ПАМ.

**МІХАСЬ ТУЛЕЙКА**

ШМАТГАДОВЫ АХВЯРНЫ ПРАЦАЎНІК У СЛУЖБЕ БАПЦ, ЕЙНЫ ПРЫКЛАДНЫ ВЕРНІК, АДЫЙШОЎ ДА БОЖАГА ПАСАДУ 6-га САКАВІКА 1998 г. НА 83-м ГОДЗЕ ЖЫЦЬЦЯ, АБ ЧЫМ, ВЫКАЗВАЮЧЫ СПАЧУВАНЬНІ ЯГОНАЙ СЯМ'І, ПАВЕДАМЛЯЕ

ПАРАХВІЯЛЬНАЯ РАДА
КАТЭДРАЛЬНАГ САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА
Ў БРУКЛІНЕ

## СЬВ. ПАМ. МІХАСЬ ТУЛЕЙКА

Сьв. Пам. Міхась Тулейка нарадзіўся 8-га верасьня 1915-га г. у шматдзетнай сялянскай сям'і Амбражэя й Ганны з Крукоўскіх Тулейкаў у Нясьвіжы.

Адукацыю атрымаў у мяйсцовай польскай пачатковай школе а ўсьлед тамака-ж і ў настаўніцкай сэмінарыі.

Пасьля сканчэньня сэмінарыі ў 1936-м годзе быў пакліканы ў польскае войска, дзе ў 79-м палку пяхоты ў Слоніме прайшоў падрыхтоўчы курс ахвіцэраў рэзэрвы.

Настаўніцкую працу пачаў у 1937-м годзе спачатку ў Нясьвіжы, а пазьней у Снове, але ў 1939-м годзе быў мабілізаваны й накіраваны ў складзе 20-е дывізыі на мяжу йз Усходняй Прусыяй.

Адступаючы пасьля пачатку вайны з разьбітай польскай арміяй браў удзел і быў паранены ў абароне Варшавы, ды ўрэшт апынуўся ў лягеры палонных у Млаве, адкуль у выніку абмену вярнуўся дамоў.

Пры савецкай уладзе працаваў настаўнікам у Нясьвіжы ды працягваў гэтую працу й пры немцах, сьпярша кіраўніком пачаткавае школы, а пасьля аж да эвакуацыі ў 1944-м годзе заступнікам дырэктара настаўніцкае сэмінарыі.

Быў дэлегатам 2-га Усебеларускага Кангрэсу.

Пасьля капітуляцыі Нямеччыны улучыўся ў вызвольную дзейнасьць беларускае эміграцыі ды адначасна пачаў здабываць вышэйшую адукацыю, сьпярша на агранамічным факультэце адчыненага для ўцекачоў ўнівэрсытэту UNRRA ў Мюнхэне, а пазьней у Украінскім Вольным Унівэрсытэце ў Рэгенэбургу.

Быў заснавальнікам Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня ў Мюнхэне, ягоным старшынём і сябрам рэдакцыйнае калегіі студэнцкага часапісу "Крывіцкі Сьветач".

Ад 1948-га году быў і сябрам рады БНР.

У 1949-м годзе выехаў у ЗША, дзе адбыўшы пачатковы кантракт на службе ў фармэра, у 1950-м годзе падаўся ў Нью Ёрк і далучыўся да арганізацыі беларускага грамадзкага жыцьця ў Амэрыцы, у якім выявіў выдатныя кіраўнічыя здольнасьці й нястомную вытрываласьць.

Быў сябрам і старшынём мяйсцовае й галоўнае ўправаў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

Шмат увагі й працы прысьвяціў маладому пакаленьню: у пачатку 50-х гадоў вёў скаўцкую хлапцоўскую дружыну, тады-ж быў абраны першым старшынём Згуртаваньня Беларускае Моладзі, быў сябрам рэдакцыйнае калегіі часапісу "Віці" ды праз шмат год кіраваў беларускай школкай, або выкладаў у ёй.

Найбольш, аднак, энэргіі й працы ён аддаў на дабро парахвіі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ у Брукліне, як старшыня Парахвіяльнае Рады ды доўгагадовы, аж да выхаду на пэнсыю й выезду зь Нью Ёрку, рэгент хору.

Няхай-жа амэрыканская зямля будзе ягонаму целу мяккай пасьцеляй, а душа спачыне ля Божага Пасаду.

## НОВАЕ НА КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

а. Канстанцін Бандарук. Праўда вас вызваліць. Беласток-Прага - Саўт Рывэр. 1997. 208 б. Выдавецтва не адзначанае.

а. Канстанцін Бандарук. Пазнай сваё. Беласток - Прага - Саўт Рывэр. 1997. 142 б. Выдавецтва не адзначанае.

Беларускамоўныя кніжныя выданьні з рэлігійнай тэматыкай, асабліва праваслаўныя, нагэтулькі рэдкія, што зьяўленьне кожнага новага становіцца падзеяй блізкай вагою да друку Скарынавае бібліі.

Асабліва калі аўтар кампэтэнтны ў справах, празь якія піша, ды выданьне тэхнічна добра выкананае.

Да гэткіх, прафэсыйна пад абодвымі паглядамі належна апрацаваных выданьняў належаць і вышэй адзначаныя кнігі а. Канстанціна Бандарука, што вядзе беларускія рэлігійныя перадачы радыя "Свабода".

У першай зь іх зьмешчаны ў вельмі даступнай форме 8 дзясяткаў гутарак на эвангельскія тэмы, а ў другой лёгкія да чытаньня весткі праз літургічнае жыцьцё Праваслаўнае Царквы, якія неабходна ведаць кожнаму праваслаўнаму хрысьціяніну.

Патрэба на гэтыя кнігі, ды яшчэ шмат іншых, нагэтулькі вялікая, што ўжо цяпер можна спадзявацца на другое выданьне.

Пакуль да яго дойдзе, аднак, нельга не заўважыць, што, як і ўва ўсіх людзкія асягненьнях, асабліва на някранутых палетках, і ў гэтых кнігах не абыйшлося бязь месьцінаў, што чытача дзівуюць і патрабуюць аўтарскае дапрацоўкі, або выясьненьня.

Да гэтых зьдзіваваньняў, у першую чаргу, належыць тое, што ў кнізе пад назовам "Праўда вас вызваліць" прамоўчаны факт існаваньня за мяжою Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Мы разумеем, што ў Беларусі й на Беласточчыне, дзе а. Бандарук спадзяецца распаўсюдзіць найбольш ягоных кнігаў, ўспамін беларускае аўтакефаліі ўважаецца цяперашнімі царкоўнымі ўладамі за крымінальную справу, але натое-ж яму й выпала магчымасьць прамаўляць па радыя зза мяжы й выдаваць кнігі, каб казаць праўду, што царкоўная аўтакефалія. як і дзяржаўная незалежнасьць - дадзенае Богам кожнаму народу права.

А. Бандарук у прадмовах да абедзьвюх кнігаў ўспамінае годнае жалю становішча беларускае мовы ў царкоўным жыцьці на Бацькаўшчыне, але ў ягоных гутарках навука пашаны да гэтага вялікага Божага дару ды настаўленьне на любасьць да таксама-ж Богам дадзенага роднага краю заўважаецца мала ды пабочна, а на гэта ў царкоўным каляндары нямала нагодаў.

Як-жа, не растлумачваючы й не таўруючы адступства ад бацькоўскае спадчыны, спадзявацца на ратунак ад гэтае гідкое Богу зьявы?

На 85-й бачыне ягонае кнігі а. Бандарук кажа, што ў 1984-м годзе Беларускі Экзархат (дадамо: чужое Расейскае Праваслаўнае Царквы) вызначыў Днём Беларускіх Сьвятых 3-ю нядзелю пасьля Сёмухі, але ня ўспамінае, што беларускія вернікі на Бацькаўшчыне прымушаныя тыдзень перад гэтым пакланяцца расейскім сьвятым.

Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ня бачачы патрэбы на вывышэньне сьвятых суседняга краю над собскімі, устанавіла Дзень Беларускіх Сьвятых у 2-ю нядзелю пасьля Сёмухі й далучыла да гэтага сьвята ўспамін Айцоў і Будаўнікоў Беларускае Аўтакефаліі.

Шкада яшчэ, што ў кнізе, амаль бяз выйнятку, ужываюцца царкоўна-славянскія назовы сьвятаў, як "Богаяўленьне", "Срэценьне", "Пяцідзясятніца", а свойскія, як "Вадохрышча", "Грамніцы", "Сёмуха" й інш. не падаюцца, хоць-бы ў дужках.

Таксама й асабовымі імёнамі аўтар карыстаецца ў царкоўна-славянскіх (расейскіх) напісаньнях ды варыянтах, як "Георгій, Францыск, Дзянісій, Сімяон, Яаан, Фама, Уільям" і пад., што выстыркаюць з тэксту як балючы палец ды яго калечаць.

Што да кнігі а. Бандарука "Пазнай сваё", дык карысьць зь яе, бязмоўна, вялізарная, бо пасьля выдадзенае БАПЦ у 1960-м годзе ў Мэлбурне, што ў Аўстраліі, ратарным спосабам невялікае працы "Кацізіс, або навука веры" больш выданьняў у беларускай мове з паясьненьнямі асноваў Праваслаўнае Веры, а таксама зьместу ды значаньня праваслаўных адправаў і сьвятаў не зьявілася.

Лёгка да зразуменьня напісаная ды, хоць сьціпла, але элегантна выдадзеная кніжка а. Бандарука паможа здаволіць даўно ўжо насьпелую патрэбу на гэткую інфармацыю.

Ня ў закід яму, а як заклік да тых, што могуць спрычыніцца да пераадоленьня нясуладнасьці царкоўна-славянскае тэрміналёгіі зь беларускай мовай, заўважым, што якраз абедзьве кнігі а. Бандарука выпучылі неадкладную патрэбу гэтай справай зайняцца.

Пазнаёміўшыся з майстэрствам роднага слова а. Бандарука мы спадзяемся, што й ён шчодра дaложыцца да яе ў ягоных далейшых працах.

## ФОНД АДБУДОВЫ БАПЦ НА БЕЛАРУСІ

Кожны год перад угодкамі абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі сярод беларускае эміграцыі на захадзе праводзіцца збор ахвяраў на "Фонд 25-га Сакавіка", што падтрымоўвае палітычную дзейнасьць Рады БНР.

Працягам году йдуць яшчэ й ня спыняюцца зборы на розныя іншыя, неабавязкава пякучыя патрэбы.

Дагэтуль, аднак, шырэйшых збораў на патрэбы скіраванае на ўзнаўленьне Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Бацькаўшчыне дзейнасьці ня было й выдаткі на гэтую мэту аплачваліся зь небагатае касы Кансысторыі БАПЦ.

Падзеі апошніх год паказалі тымчасам, што бяз роднае, заступнае за нацыянальныя інтарэсы, Праваслаўнае Царквы йснаваньне незалежнае Беларускае Дзяржавы немагчымае.

Гэтую праўду ўсьведаміла й немалая колькасьць праваслаўных беларусаў на Бацькаўшчыне ды наладзіўшы лучнасьць з Кансысторыяй БАПЦ пачала гуртавацца да дзейнасьці на ўжыцьцяўленьне гэтае Вялікае Мэты.

Нажаль, эканамічнае становішча ў зруйнаванай каляніяльнай палітыкай краіне нагэтулькі цяжкое, што гэтыя адважныя й ахвярныя людзі вельмі мала могуць даць із сваіх жабрацкіх заработкаў на добрую справу.

Гэткім чынам яны прымушаныя бязь ніякіх фінансавых сродкаў змагацца супраць падтрымоўванае дзяржавай Расейскае Праваслаўнае Царквы ды шчодра забяспечаных грашыма зза мяжы сэктаў.

Застацца абыякавымі да гэтага важнага, цяпер зактывізаванага, фронту вызвольнага змаганьня, было-б непапраўнай шкодай Беларускай Справе ды сорамам вернікам БАПЦ ды ўсёй нашай эміграцыі на Захадзе.

З увагі на гэта Кансысторыя БАПЦ увосень мінулага году адчыніла адумысловы Фонд Адбудовы БАПЦ на Беларусі, складаць ахвяры на які заклікае ўсіх беларусаў, што верныя ідэі узнаўленьня на Бацькаўшчыне прыяльнае й паможнае ў нацыянальных імкненьнях, ды незалежнае адвонку Праваслаўнае Царквы.

Чэкі, калі ласка, выпісваць на BOAC Consistory й слаць на адрыс P.O. Box 5982, Somerset, N.J. 08875-5982, або плаціць вызначаным і пасьветчаным на гэта зьбіральнікам на мейсцах.

## КЕСАРАЎ СЛУГА

*"Мы даем русскому народу мораль" - Філарэт, Мітрапаліт Менскі й Беларускі, 1988.*

Інтэграцыя сьвецкае й царкоўнае ўладаў "праваслаўнага атэізму" ў Беларусі апярэдзіла нават і дзяржаўную інтэграцыю з Расеяй.

Чольны майстра, што першую з гэтых інтэграцыяў асягнуў, а да другое пасьпешна вядзе, ніхто іншы, як экзарх Маскоўскага патрыярха ў Беларусі мітрапаліт Філарэт.

Ягоная асоба адна з найбольш прыкметных у публічным жыцьці нашае Бацькаўшчыны, да чаго спрычыняецца, як асаблівая роля прызначаная яму сьвецкай уладай, гэтак і ягоная нязмоўкная самарэкляма.

Адно й другое імкнецца прадставіць гэтага спрытнага чалавека, што зрабіў палітычную кар'еру ў Расейскай Праваслаўнай Царкве ў савецкія застойныя часы, як маральнага волата й духовага праведніка, ды павадыра.

Нажаль, хоць да запраўдэнасьці гэткага вобразу ў шмат каго ёсьць нямала сумневаў, знайсьці ў Беларусі публікацыі зь непрыхарошаным апісаньнем ягонага жыцьця нядужа лёгка.

Каб запоўніць нястачу інфармацыяў на гэтае пытаньне далей тут падамо крыху вестак, што да нас дайшлі.

На пачатак карціць хоць коратка пазнаёміць чытачоў з рэпартажам аб сустрэчы й гутарцы зь ім, што быў надрукаваны ў расейскамоўным выданьні фінскае лютэранскае газэты "Котімаа" 3.6.1988 г.:

*"Маленькія дзеравяныя дачы стаяць сярод тонкіх хвояў. Заасфальтаваныя дарожкі разыходзяцца ў ляску, што мае прыгожы расейскі назоў: Серабраны Бор. ... да цэнтру Масквы толькі каля дзесяці кілямэтраў.*

*Адна дача выглядае багацей: яна двохпавярховая, атынкованая на зялёны коляр.*

*Ейны панадворак пакрыты асфальтам, але на траўцы растуць бярозы. Зь іх цячэ бярозавы сок у вялікія шкляныя слоі.*

*Гэта рэзыдэнцыя Мітрапаліта Філарэта. ...*

*Мітрапалітавая гасьцёўня яшчэ пустая. У вялікім пакоі стаяць цяжкія, пакрытыя рудым плюшам, канапы й крэслы. На сталах, з дарагіх гатункаў дрэва, стаяць ружы, на сьценах вісяць партрэты Патрыярхаў і абраз "Даніла з ільвом". Дамінуе ў пакоі, паводле праваслаўнага звычаю, вялікі, прыгожы покут зь іконамі.*

*У гасьцёўні таксама "ікона" нашых часоў, каляровы тэлевізар з відэамагнітафонам. Тэлевізар улучаны, ідзе паказ "Песьня-88".*

*На тумбачцы ляжыць сьвежы нумар газэты "Правда". Найбольшым здымкам на ейнай першай бачыне надрукаваная фатаграфія сустрэчы напярэдадні. На здымку відныя старэчны Патрыярх Пімен і Генеральны Сакратар М. С. Гарбачоў. У гэтай гутарцы браў удзел таксама Мітрапаліт Філарэт, адказная асоба Расейскае Царквы."*

Што-ж за адказнасьць спачывала на гэтай асобе?

На гэтае пытаньне найлепшы адказ дае рапарт Фэдэральнага Высьледнага Бюро ЗША (FBI) з 1986-87 г.г. надрукаваны ў "Cogressional Record" 9.12.1987:

*"Найзначнейшае ды найбольшае рэлігійнае згуртаваньне у Савецкім Саюзе - Маскоўскі Патрыярхат Расейскае Праваслаўнае Царквы (РПЦ). Духовы й адміністрацыйны кіраўнік РПЦ - Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Пімен. За апаратам РПЦ уважліва сочыць ды кантралюе яго савецкі ўрад праз Раду Рэлігійных Справаў, што падлягае Радзе Міністраў СССР. Таму толькі палітычна ляяльныя й паслухмяныя царкоўныя кіраўнікі ды адміністратары асягаюць аўтарытэтныя становішчы, ды маюць дазвол на кантакт з чужынцамі. Гэткім спосабам савецкія ўлады маюць магчымасьць трымаць кантроль над РПЦ.*

*Савецкія царкоўныя службоўцы пераканалі значную колькасьць іхных заходніх калегаў, што савецкі ўрад зацікаўлены ў забясьпечаньні рэлігійнае свабоды ягоных грамадзянаў. Каб падмацаваць гэты фасад, савецкі ўрад і РПЦ рыхтуюць у 1988-м годзе хітрую сусьветную кампанію адзначэньня 1000-годзьдзя пачатку хрысьціянства ў Расеі. ...*

*Адзьдзел Вонкавых Дачыненьняў Маскоўскага Патрыярхату - адказная ўстанова за ўсе сувязі, якія РПЦ мае з Савецкім Камітэтам Абароны Міру, Хрысьціянскай Мірнай Канфэрэнцыяй і іншымі арганізацыямі, што ўваходзяць у прасавецкі фронт. Гэты адзьдзел каардынуе ягоную дзейнасьць з Амэрыканскай Радай Міру Камітэту Рэлігійных Колаў, Сусьветнай Радай Цэркваў, Амэрыканскай Нацыянальнай Радай Цэркваў ды іншымі рэлігійнымі арганізацыямі вонках Савецкага Саюзу. Апошнімі гадамі Адзьдзел Вонкавых Дачыненьняў Патрыярхату моцна пашырыў ягоную міжнародную дзейнасьць і перабраўся ў большае памешканьне - аднаўлены Данілаўскі манастыр у Маскве. Старшынём гэтае ўплывовае ўстановы, а таксама Адумысловае Камісыі Кантактаў з Замежнымі Рэлігійнымі Коламі, што ўзноў-жа ўваходзіць у Савецкі Камітэт Абароны Міру, ёсьць Менскі Мітрапаліт Філарэт. Савецкі ўрад трымае моцны кантроль над рэлігійнай дзейнасьцяй у Савецкім Саюзе й (таму) можа пашыраць прапаганду, або дэзыфармацыю вонках СССР".*

На гэтую прапаганду й дэзынфармацыю паводле пададзенае кангрэсмэнам W.B.Yung у тым-жа нумары Congressional Record ацэны ЦВУ (CIA) савецкі ўрад у той час выдаваў 4 мільярды даляраў у год.

Пры гэтак багата зеляняй засланым стале тым, што заслужылі, каб засесьці пры ім, пэўна-ж, можна было няблага пажывіцца, што якраз найлепш відаць з жыцьця й кар'еры апісванага ў гэтым артыкуле "маралізатара".

Мітрапаліт Філарэт (у сьвеце Кірыла Баўтрамеявіч Вахрамееў) нарадзіўся 21-га сакавіка 1935-га году ў Маскве.

У 1959-м годзе быў пастрыжаны ў манахі, а ў 1961-м скончыў Маскоўскую Духоўную Акадэмію йз ступеняй кандыдата багаведы.

У 1963-м годзе стаў загадчыкам асьпірантуры МДА ды ў 1965-м, на 31-м годзе жыцьця, быў ужо хіратанізаваны ў япіскапы.

У 1966-м годзе пастаўлены на становішча рэктара Маскоўскае духоўнае акадэміі й сэмінарыі, у 1971-м узвышаны ў архіяпіскапскую ступень.

У 1973-м годзе прызначаны архіяпіскапам Бэрлінскім і Сярэдняэўрапэйскім, Экзархам Маскоўскага Патрыярха на Сярэднюю Эўропу.

У 1975-м годзе ўзнагароджаны тытулам мітрапаліта, ды ўрэшт у 10-га кастрычніка 1978-га году пастаўлены на Мітрапаліта Менскага й Беларускага, а разам і на Патрыяршага Экзарха Заходняе Эўропы.

Да ўсяго гэтага ад 1968-га да 1971-га ён яшчэ заступнік старшыні Адзьдзелу Вонкавых Дачыненьняў Маскоўскага Патрыярхату, а ад 1978-га й ягоны старшыня.

Ня без заслугаў перад атэістычнай уладай ужо ўзнагароджаны ўсімі гэтымі высокімі становішчамі мітрапаліт Філарэт падаецца сам й зь вялікім савецкім начальствам ў адно за адным падарожжы за мяжу, аб якіх звычайныя грамадзяне маглі толькі марыць.

Ня ў вешчаньні Божага слова, пэўна-ж, шчыраваў за гэтыя прывілеі паліт-герарх, а славіў "мірную" савецкую палітыку ды зводзіў наіўных заходніх царкоўнікаў на зраду іхных дзяржаваў.

Разам з гэтым ён не забыўся нятолькі выгадна, але нат і раскошна ўладзіць сабе гняздо на беларускай зямлі.

Праз гэта пісаў у № 1 за 1991 г. беластоцкай газэты "Ніва" А. Максімюк:

*"Пабудова будынка Беларускага экзархальнага ўпраўленьня ў Менску цягнулася пяць гадоў - закончылася ў 1985. У выніку захадаў мітрапаліа Філарэта беларускі ўрад выдзяліў дзеля гэтай пабудовы невялікую пляцоўку, але затое ў самым цэнтры горада. Беларускі ўрад даў таксама матэрыял, з якога пабудавана сядзібу Экзархата. Галоўны архітэктар распланаваў будынак на тры паверхі: першы - канцылярыя мітрапаліта і ўся адміністрацыя, другі - зала пасяджэньняў і пріёмная, трэці - памяшканні мітрапаліта. Усярэдзіне - італьянскі панадворак."*

Дзіву даешся чытаючы, чаму гэта найвярнейшы запаветам Леніна-Сталіна ўрад БССР у пору найглыбейшага застою, калі нават пранізаныя стукачамі парахвіі ледзь дыхалі пад цяжарам падаткаў, гэтак рашчодрыўся на пабудову праваслаўнага царкоўнага цэнтру ў Менску?

Незразумела таксама, чаму гэткі высокі й заслужаны дастойнік Маскоўскага патрыярхату ня мог, ці не схацеў выбраць сабе пасад у роднай яму Расеі, а апынуўся ў маленькай Беларусі, дзе ў той час была адно пара сотняў бедных парахвіяў?

Незразумела, пэўна-ж, покуль не падумаеш, што ўсё гэта было зроблена ня выпадкова, а з наперад абдуманымі й акрэсьленымі мэтамі.

Нягледзячы бо на параўнальна невялікую цяпер тэрыторыю, Беларусь, у ейным ранейшым дзяржаўным увасабленьні - Вялікім Княстве Літоўскім была пагрозай імпэрыяльным плянам Масквы, а пасьля ягонага заняпаду стала калідорам, празь які нятолькі йшлі атакі на Расею, але, што ёй яшчэ важней, самая Расея мела ды мае адчыненую дарогу да націску й умяшаньня ў эўрапэйскія справы.

Паставіць на гэтай жыцьцёва важнай для імпэрыі пляцоўцы надзейнага чалавека няпішняя, ды выпраўданая пазьнейшымі падзеямі, асьцярожнасьць.

Тым больш, што зза мяжы, усё-ж, пранікалі навіны празь дзейнасьць беларускае эміграцыі, у тым ліку й праз стварэньне мітраполіі БАПЦ.

Ці, і якія дачыненьні меў Беларускі Экзархат да непарадкаў, што неўзабаве пачаліся ў БАПЦ? - некалі дадуць адказ архівы, ці ўспаміны сьведкаў, але гэткае магчымасьці нельга не дапушчаць.

У кожным выпадку, калі пачалася перабудова, а за ёю ўпаў і Савецкі Саюз, мітрапаліт Філарэт не разгубіўся, а захоўваючы лучнасьць з ранейшым апаратам, патрапіў, пасьля пачатных маладзяных хванабэрыяў, урахманіць і беларускі нядужа рэлігійны адраджэнскі актыў.

Гэткім чынам, замест каб, як суседнія ўкраінцы, будаваць родную аўтакефальную праваслаўную царкву, нашыя адраджэнцы здаволіліся неакрэсьленымі ў часе абяцаньнямі беларускае мовы ў адправах, або займаліся фантазыямі аб узнаўленьні вуніі.

Адвёўшы танным коштам няборздых на свой розум беларусаў ад спакусы на аўтакефалію мітрапаліт Філарэт з налягам пачаў працаваць на іхнае вяртаньне, ці, пацяперашняму кажучы, інтэграцыю, калі не ў савецкі рай, дык у расейскае царства на зямлі й на небе.

Не сакрэт як пад ягоным павадыствам фактычна расейскія япіскапат ды ніжэйшае духавенства Беларускага Экзархату папрацавалі на перамогу ў выбарах і рэфэрэндумах улады, што сёньня пануе на нашай Бацькаўшчыне ды цягне яе ў маскоўскую пятлю.

У тую-ж маскоўскую пятлю, ці інтэграцыю, цягне й мітрапаліт Філарэт, ды тлумачыць гэта Божай воляй на задзіненьне народаў, быццам-бы Ісус Хрыстос быў *"собирателем русской земли"*.

А, каб існавала ў нас свая Праваслаўная Царква, вынікі тады й справы цяпер маглі-б быць іншыя.

Якімі шчодрымі, у тым ліку й гандлёвымі, прывілеямі РПЦ і гонарамі ейнаму экзарху, аж да ордэну Скарыны (!) улучна, адплаціла за перамогу тая ўлада шырака ведама ды відно з рэпартажаў і здымкаў у прэсе.

Той цесны супалкай із сьвецкай уладай ды ейнымі шчодрымі прывілеямі, як сьветчыць хоць-бы ўспамінаны ў папярэднім нумары "Ц.П." рапарт япіскапа Глеба, РПЦ і ейны беларускі экзарх гэтак умурзаліся, што страцілі Божы вобраз і людзкую годнасьць.

Таму й не сядзіцца гэтаму экзарху спакойна на няпраўна зайнятым пасадзе й ён, як можа, намагаецца праз тую-ж уладу ягонае мейсца на гэтым пасадзе забясьпечыць.

Добрую нагоду на гэта дала зьмена канстытуцыі РБ у 1996-м годзе, аб чым сам мітрапаліт Філарэт так казаў (перадрукоўваем з газэты "Царкоўнае Слова" №2, 1997 парасейску, бо йнакш гучэла-б хвальшыва):

*"После публикации...проекта Конституции...мы нашлі, что в религиозной области никаких изменений не предполагается. ...*

*Хотя духовная сфера огромна, в Конституции ей были посвящены две статьи: 16 и 31, из которых в особых изменениях нуждалась статья 16. ...*

*В результате серьёзной работы и диалога с соответствующими государственными структурами была принята наша редакция статей 16, 31 и 54...*

*В новой Конституции отношения государства и религиозных организаций регулируются с учётом их влияния на формирование духовных, культурных и государственных традиций белорусского народа (часть II статьи 16). ...изменения, предложенные нами, дали возможность класифицировать религиозные организации как традиционные, нетрадиционные, деструктивные с закреплением их различного статуса..."*.

Як з гэтага відно ў Беларусі амаль на цэлы год раней, як у Расеі, з падказу Экзархату дзяржаўным законам была абмежаная свабода рэлігіі.

На першы пагляд магло здавацца, што гэтае абмежаньне было скіраванае супраць усіх няправаслаўных веравызнаньняў, у запраўднасьці-ж выявілася, што яно перадусім цаляе ў найбольш небясьпечную РПЦ Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву.

Даволі бо, напрыклад, было газэце "Наша Ніва" зьмясьціць леташняе вялікоднае прывітаньне ад Я.М. Мітрапаліта Ізяслава, як на яе зваліліся пагрозы рэспубліканскае пракуратуры забараніць выданьне.

Большае яшчэ буры леташняй восеняй нарабіла распаўсюджаньне "Царкоўнага Пасланца" па парахвіях Беларускага Экзархату РПЦ.

У папярэднім нумары нашага часапісу мы пісалі ўжо праз грымотны абежны ліст, які з гэтае прычыны разаслаў духавенству ўстрывожаны мітрапаліт Філарэт, а цяпер даведаліся, што зь ягонага загаду шукаюць, каб пакараць, вінаватых.

Покуль-жа іх знойдуць ён дзее, каб узмоцніць забароны на свабоду веры, не дапусьціць да ўзнаўленьня БАПЦ, між іншым, узноў-жа кансультуючы *"соответсвующие государственные структуры"*, як гэты гвалт акрыць шатай закону "аб свабодзе веравызнаньняў і рэлігійных арганізацыях".

Ды ягоная ўлада й сіла РПЦ - дарма, бо Гаспадар "скіне з пасаду мажных і ўздыме пакорных" (Лук.1,52).

## ДА НАС, ПРАЗ НАС І ... ЗА НАС ПІШУЦЬ

Перш за ўсё хочам падзякаць тым нашым суродзічам з Бацькаўшчыны й зза мяжы, што былі ласкавыя ўважыць Кіраўніцтва БАПЦ і Рэдакцыйную Калегію "Ц. П." прывітаньнямі з 80-мі ўгодкамі абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі.

Усе гэтыя прывітаньні нам аднолькава дарагія й застануцца ў нашай памяці ды ў архіве, але з колькімі зь іх, думаем, будзе цікава пазнаёміцца й нашым чытачам.

Вось яны (ня ўсе йз зразумелых прычынаў з подпісамі):

*"Ад імя ўсіх нашых прыяцеляў з Бацькаўшчыны й ад сябе асабіста, віншую Вас, нашага Архіпастыра, Уладыку Ізяслава, парахвіянаў Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага са сьвятам Беларускае Дзяржаўнасьці - 80-мі ўгодкамі абвешчаньня Беларускае Народнае Рэспублікі. Дай Божа, каб закладзены ў тыя часы наш агульны нацыянальны дом быў нарэшце дабудаваны й зазьзяў сваёй веліччу.*

*Вельмі своечасова атрымалі ад Вашае Міласьці 7 віншаваньняў й ліст, за што вельмі ўдзячныя. Я выправіў віншаваньні адрэсантам, а спп. Багданкевічу й Баршчэўскаму асабіста ўручыў на ўчорашнім сьвяточным мітынгу, дзе прысутнічала каля 10 000 менчукоў й гасьцей, а таксама ледзь ня ўся незалежная прэса Беларусі. Было вельмі прыемна, калі сп. Баршчэўскі зачытаў у мікрафон Віншавальны Ліст Я.М. Мітрапаліта Ізяслава, перад усім народам!...*

*Вельмі будзем радыя атрымаць наступнага "Царкоўнага Пасланца"... чытачы ўжо чакаюць".*

На рукі Я.М. Мітрапаліта Ізяслава прыйшоў зь Менску факс наступнага зьместу:

*Яго Міласьці Мітрапаліту Ізяславу*
*Першагерарху Беларускае*
*Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы*

*Ваша Міласьць!*

*Дазвольце мне ад сябе асабіста, а таксама ад імя Аб'яднанай грамадзянскай партыі шчыра падзякаваць Вас за цёплае віншаваньне з нагоды 80 угодак Беларускай Народнай Рэспублікі.*

*Карыстаючыся мажлівасьцю хачу запэўніць Вас, што Аб'яднаная грамадзянская партыя здзейсьніць усё магчымае, каб светлыя ідэалы БНР сталі рэчаіснасцю сённяшняга дня.*

*Мы вітаем намаганні Беларускай Аўтакефальнае Царквы скіраваныя на умацаванне незалежнасці нашай Бацькаўшчыны.*

*З найвялікшай павагай*

*Станіслаў Багданкевіч*

*Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі,*
*лідэр фракцыі "Грамадзянскае дзеяньне"*
*Вярхоўнай Рады Беларусі".*

Яшчэ Рэдакцыя "Ц.П." атрымала гэткі ліст:

*"Рэгулярна чытаю газэту Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы "Царкоўны Пасланец". Ваша газэта вельмі патрэбна на Беларусі, бо беларускі шматпакутны народ варты сваёй нацыянальнай царквы. Расейская акупацыйная царква цалкам скампраментавала сябе супрацоўніцтвам раней з камуністычнымі ўладамі, КДБ, а цяпер з лукашэнкаўскім дыктатарскім рэжымам. Таму моладзь марыць пра сваю беларускую царкву, у якой народу можна будзе зьвярнуцца да Бога на роднай мове. Я веру, што такі час настане!*

*З нагоды вялікага сьвята 25 сакавіка шчыра віншую рэдакцыю "Царкоўнага Пасланца" і зычу ўсяго добрага ў вашай высокароднай самаахвярнай працы".*

Апрача прывітаньняў Рэдакцыйная Калегія "Ц.П." атрымала таксама лісты, што кранаюць царкоўныя справы, у тым ліку й справу ўзнаўленьня БАПЦ на Бацькаўшчыне.

Адзін зь іх, што ў немалой ступені адлюстроўвае разгубленасьць беларускіх праваслаўных вернікаў у Краі, з малым скаротам перадрукоўваем ніжэй:

*"Шчыра дзякую за прысланыя на мой адрас два нумары "Царкоўнага Пасланца", якія былі для мяне неспадзянкай. Як трапілі да Вас мае каардынаты я магу толькі здагадвацца... Дарэчы, гэта для мяне амаль зусім ня важна, адно каб было шчыра, дзеля збаўленьня душы і духовага росквіту Айчызны.*

*Сапраўды, ідэя нацыянальнага адраджэньня ў Праваслаўнай Царкве на Бацькаўшчыне мне імпануе, але пытаньне гэта павінна вырашацца ў духу міласьці (любові) і памяці аб тым, што і беларусы, і ўкраінцы, і рускія, і палякі, і г.д. - усе павінны перш за ўсё імкнуцца да нябеснай Айчызны, бо па слову сьв. Апостала, "нашае жыхарства на нябёсах", а цяперашняя зямля пройдзе (Апак. 21, 1).*

*Акрамя таго, мяне вельмі хвалюе мэтодыка абвяшчэньня (ці адраджэньня) аўтакефаліі, якая нагадвае сьвецкую барацьбу за трон. Пытаньне: ці апраўдвае сябе тое, што на вачах абязбожанага сьвету (у тым ліку і нашага Беларускага Народу), мы пачынаем рваць нясшыты хітон Збавіцеля, абвінавачваючы адзін аднаго ў розных грахох. Перш трэба адрадзіць у людзях веру, навучыць іх жыць па Хрыстовых запаветах, навучыць шукаць Царства Нябеснага, а астатняе прыложыцца: і любоў да мовы, і патрэба ў скарбах нацыянальных традыцый...*

*Пры гэтых высновах я вельмі зацікаўлены ў тым, каб атрымліваць надалей "Ц.П.", які, спадзяюся, дапаможа асэнсаваць мэты БАПЦ, яе гісторыю і біяграфічныя зьвесткі яе Аўтарытэтаў (і перш за ўсё Яго Міласьці Спадара Першагерарха мітр. Ізяслава). Цікава было б даведацца пра адносіны БАПЦ з Аўтакефальнай Царквой мітр. Мікалая, з іншымі Праваслаўнымі Цэрквамі і канфесіямі.*

*Яшчэ раз дзякую за ўвагу і зычу ўсім дабраслаўленьня Божага ўва ўсім, што дзеля будоўлі Цела Хрыстовага і вечнага збаўленьня нашага Беларускага Народу - неадрыўнай часткі ўсяго Народу Хрысьціянскага".*

Аўтар ліста зусім справядліва закранае некалькі пытаньняў, на якія зь нястачы мейсца, нажаль, коратка, пастараемся адказаць.

Мы цалком зь ім згодныя, што ўсе народы перш за ўсё павінны імкнуцца да нябеснае Айчыны, але хочам згадаць, што з Божае Волі шлях да Яе трэба праходзіць па гэтым сьвеце, які наш Стварэц, зь Ягонае Мудрасьці, падзяліў на асобныя Радзімы для ўсіх гэтых народаў.

Дорачы народам родныя куткі на сьвеце Бог, пэўна-ж, не зрабіў гэта, каб яны за гэтыя куткі біліся, ці іх адзін ў аднаго адбіралі ды няволілі, або й вынішчалі суседзяў.

Большыя й меншыя, ды багацейшыя, ці бяднейшыя мейсцы на зямлі, як гаспадар зь эвангяльскае прыповесьці ягоным слугам розны лік талентаў, Бог даў народам, каб паводле ад Яго-ж атрыманых асаблівасьцяў і здольнасьцяў яны на карысьць сабе, ды на славу й падзяку Яму гэтыя дары памнажалі.

Але памнажэньне дадзеных на пражыцьцё дароў немагчымае бяз разьвіцьця й узбагачэньня ад Бога-ж атрыманых добрых духовых асаблівасьцяў і талентаў, за якія кожны, хто іх атрымаў будзе даваць перад Ім адказ.

Дык не паводле Божае Волі, але йз сатановае спакусы дзеюць тыя, што Богам дадзеныя куткі ад іншых, як ад нас, адбіраюць ды тых, што на гэтых кутках гас-

падаруюць у што іншае, як іх Бог стварыў, абяртаюць.

Ці-ж казаць гэтую праўду ды ймкнуцца адвярнуць дазнаваныя крыўды знак нелюбаты да іншых народаў?

Ды, ці-ж можна любатой назваць тое, што гэтыя народы робяць з намі?

Нас дзівуе вера аўтара ліста ў маскоўскае мудрагельнае крućельства, што *"любоў да мовы, і патрэба ў скарбах нацыянальных традыцый" "прыложыцца"*, як ён кажа, калі *"перш адрадзіць у людзях веру, навучыць іх жыць па Хрыстовых запаветах, навучыць шукаць Царства Нябеснага"*.

Выходзіць у Царства на небе можна йсьці адразу двама шляхамі: Хрыстовым і юдавым, або, інакш, быццам любіць Бога, а гардаваць бліжнім ды адракацца, ці прадаваць яго.

А хто-ж той бліжні, як ня нашыя бацькі й дзяды, мова, якую яны нам у спадчыне пакінулі, ды наш Богам дадзены Край?!

Урэшце, мы згодныя з аўтарам, што ня трэба *"на вачах абязбожанага сьвету..."*, ці паза гэтымі вачыма *"абвінавачваць адзін аднаго ў розных грахох "*, калі абвінавачаньні хвальшывыя, але й грэшна маўчаць, калі яны згодныя з праўдай, ды той, каго яны датычаць, ці вагою ягонага становішча, ці спрытнасьцяй словаў і дзеяў спакушае нясьведамых на нягодныя шляхі.

Што да дачыненьняў з *"Аўтакефальнай Царквою мітр. Мікалая"*, дык блізкі да царкоўнага жыцьця аўтар ліста хіба ведае, што кожны народ можа мець толькі адну аўтакефальную праваслаўную царкву з адным першагерархам, будзь ён архіяпіскап, мітрапаліт, ці патрыярх.

Адною ды непадзельнай ёсьць і Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква йз згодна з царкоўнымі правіламі саборна выбраным Першагерархам Я.М. Мітрапалітам Ізяславам на чале.

Пазбаўлены духоўніцкае годнасьці за разбуральную дзейнасьць ды, не зважаючы на гэта, ягонымі палітычнымі гаспадарамі пастаўлены на "мітрапаліта й першагерарха БАПЦ" Міхась Мацукевіч (б. архіяпіскап Мікалай) выдаваць сябе за такога ня мае ніякага права й, робячы гэта робіць нашай Царкве вялікую шкоду, а таму й ніякіх дачыненьняў зь ім БАПЦ мець ня можа.

Інфармацыі праз мэты, гісторыю й кіраўнікоў БАПЦ мы ўжо публікавалі ды будзем рабіць гэта далей, калі Бог дасьць магчымасьць, нават асобнымі выданьнямі.

Спадзяемся, што дапытлівы аўтар ліста ў будучыні будзе знаходзіць у "Ц.П." цікавы яму матарыял ды трымаць з намі лучнасьць.

Зь іншага кутка Беларусі дайшоў, ня менш цікавы за папярэднія, ліст, выйняткі зь якога ніжэй друкуем:

*"Вялікі дзякуй, што не забываеце мяне грэшнага і праз "Царкоўны Пасланец" дазваляеце... далучыцца... да Сьвятыні. Удзячнасьць маю да Вас за тое, што моліцеся за Беларусь, за ўсіх людзей, у тым ліку і мяне недастойнага... хацеў бы прасіць Вас паспрыяць мне ахвяраваць для Ягамосьці Прэасьвяшчэннага Серафіма энцыкляпэдычны даведнік "Беларусь"... Мяркую гэты фаліянт будзе карысны для архіпастырскай дзейнасьці і дапаможа больш "адчуць" Беларусь, яе духоўныя запатрабаваньні і проста пашырыць нашы інфармацыйныя повязі. ...*

*Будзьце ласкавы выказаць свае адносіны ла манаскага чына ў БАПЦ. Ці магчыма зараз манастырская пабудова і прыняцьце послуху для мяне". ...*

Адказваем: манаскі чын неаднятная частка царкоўнага жыцьця, але ў сучасных умовах, як на Бацькаўшчыне, гэтак і на эміграцыі БАПЦ ня мае магчымасьці, ні заснаваць, ані ўтрымаць свае манастыры.

Ахвочыя пайсьці ў манаскі послух могуць, аднак, гэта зрабіць ды служыць Богу й людзям жывучы ў сьвеце, пакуль зайснуюць манастыры БАПЦ.

Па дакладнейшыя інфармацыі ў гэтай справе трэба зьвяртацца ў Кансысторыю БАПЦ.

Перапрашаючы дапішчыкаў, лісты якіх з фізычнае немагчымасьці засталіся бязь пісьмовага адказу, або ўспаміну на бачынах "Ц.П.", хочам дапоўніць гэты разьдзел цытатамі з артыкулу Яўгена Мікалаені "Не ў сіле, а ў праўдзе", што нядаўна быў зьмешчаны ў "ЛіМ'е" (на копіі, што мы атрымалі, няма даты й н-ру):

*"...калі хто...верыць, што праз увядзеньне беларускай мовы ў царкве што-небудзь зьменіцца, ён глыбока памыляецца. Хіба, зьмяніўшы афарбоўку, можна памяняць і сутнасьць? ...*

*Ад "моўнай беларусізацыі" царква беларускай не стане. Таму, што праблема - куды глыбейшая, і пытаньні, якія ўздымаюцца, - куды шырэйшыя, чым проста пытанні мовы. ...*

*...весьці гаворку сёньня трэба не толькі аб мове, Калі ўжо казаць праўду, дык - усю да канца. Бо паўпраўды не існуе. ...*

*На вялікі жаль, у доме малітвы - доме Божым, якім зьяўляецца Царква, не ўсё добра, Маё сэрца адчувае часам і штучную шчырасьць, і крывадушнасьць святароў, якія разам са стратай нацыянальнага (бо служаць чужой на Беларусі расійскай царкве), страцілі ў сабе й пачуцьцё Боскага. Яны, хай і не па сваёй волі, вымушаны хлусіць - самім сабе і сваім вернікам. І гэта стала прывычным, як бы нечым звычайным. Атрымоўваецца, што праваслаўныя святары хлусяць самой Царкве, якая ёсьць "месца прысутнасці Божае на зямлі". Калі ім не люба крывіць душой, то чаму ж маўчаць, чаму не кажуць праўду? Таму я не веру праваслаўнаму духавенству , якое сёньня служыць на карысьць расійскай праваслаўнай царквы. І такі расійскі па духу святар нам, беларусам, "не пастыр, а найміт, для якога авечкі не свае". Ці можа ён добра выконваць сваю справу?... Гэтак жа, як і РПЦ, тут, на Беларусі? Вось і вынікае, што руская царква нам не маці, а мачыха. ...*

*А значыць і незалежная Беларусь павінна мець сваю Незалежную царкву. Дзеля ўмацаваньня духоўнай еднасьці свайго народа. Без духоўнага адзінства, якое зберагаецца і ўмацоўваецца менавіта сваёй царквой, нам ніколі не быць пасапраўднаму незалежнай (сувэрэннай) краінай і значыць, наканавана згубіць, ці растраціць атрыманую свабоду. А разам з тым - і беларускую мову, сваё нацыянальнае аблічча і культуру, слаўную сваю гісторыю.*

*Я лічу, што тыя нацыянальна-вызваленчыя рухі па ўзнаўленьні беларускай дзяржаўнасьці былі задушаны толькі таму, што беларусы, як нацыя, не мелі сваёй незалежнай (аўтакефальнай) царквы, якая б магла аб'яднаць сваіх сыноў і дачок у барацьбе за лепшую долю.*

*Я не заклікаю да выхаду з праваслаўя, калі кажу аб неабходнасці разрыву з РПЦ, бо маскоўская патрыярхія, так званы "Трэці Рым" - гэта яшчэ не ўсё праваслаўе. Наогул, "праваслаўнае хрысціянства" - гэта значыць "правільнае слаўленне Бога", пакланенне яму ў Духу і Ісціне. Чыстае, праўдзівае, першароднае -якім яно было ў царкве створанай самім Хрыстом і яго апосталамі. Хрысціянская царква - гэта прытулак Божы на зямлі, Дом Божы. Менавіта таму, для стварэння незалежнай Беларускай праваслаўнай царквы самым галоўным з'яўляецца вяртанне яе ў жыватворную чысціню евангельскага духу, да сваёй веры, любові, братэрства і міласэрнасці, якія запаведаў нам нябесны Бацька і Збавіцель. Аразам з гэтым самі сабой адыдуць усе пытанні і ўсе непаразуменні, і тады*

## ПРОДАЖ ЦАРКОЎНЫХ БУДЫНКАЎ У ІСТ ПОЙНЬЦЕ

Спрычыненыя нежаданьнем часткі былых парахвінаў падпарадкавацца царкоўнай уладзе ды іхнай неахвотай да патрэбнае ў царкоўным жыцьці ахвярнасьці пераход у 1989-м годзе майнасьці Парахвіі Сьв. Духа у Іст Пойньце, Міч. у падпарадкаваньне Кансысторыі БАПЦ быў выкарыстаны гэтымі людзьмі за прычыну да канчатковага закрыцьця парахвіі.

Неаднаразовыя бо намаганьні Кіраўніцтва БАПЦ дайсьці да згоды ды спробы ўзнавіць дзейнасьць парахвіі засталіся бяз выніку.

У гэтым часе царква ды жыльлёвы дом пры ёй патрабавалі догляду, рамонтаў і выдаткаў на утрыманьне.

Урэшце патрэбы на робленыя колькі раз бруклінскімі парахвіянамі рамонты перавысілі іхныя сілы, а выдаткі на догляд ды ўтрыманьне вырасьлі вышэй за магчымасьці сьціплае касы Кансысторыі БАПЦ, і будынкам пачало пагражаць зруйнаваньне ды вандалізм.

З увагі на гэта была прыйнятая пастанова будынкі прадаць, калі магчыма не мяняючы іхнага прызначэньня.

Адзіным сур'ёзным купцом выявіла сябе, нажаль, толькі новастворaная ў Іст Пойньце парахвія Расейскае Праваслаўнае Царквы за мяжою, якой і давялося 17.3.1998 г. аб'ект прадаць на сплату працягам двох год.

Грошы з продажу пойдуць на неадкладны рамонт Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага й на патрэбы Кансысторыі БАПЦ.

## ДА НАС, ПРАЗ НАС І... ЗА НАС ПІШУЦЬ

(ЗАКАНЧЭНЬНЕ ЗЬ 15-Е БАЧ.)

*беларуская мова загучыць у беларускіх храмах. А царква будзе стаяць на баку сваіх вернікаў, але не будзе выконваць чужую волю - ці то маскоўскіх патрыярхаў, ці то ўласных дзеячаў "праваслаўнага атэізму".*

*Яшчэ раз хачу падкрэсліць, што наша выратаванне - праз аднаўленне сваёй Беларускай, Незалежнай Царквы. Калі не ў царкве, то дзе нам шукаць праўду?"...*

Лепш напісаць мы й самыя ня здолелі-б, шкада толькі, што няма мейсца, каб перадрукаваць артыкул сп. Мікалаені ад пачатку да канца.

На заканчэньне, нам здаецца, будзе карысна перадрукаваць малы выйнятак з артыкулу Мар'яна Дуксы "Шлях да храма - свабодны" зь "ЛіМ'у" за 26.9.1997:

*"чаму мы, вернікі, пры выбары прэзідэнтаў, вельмі мала ўвагі звяртаем на іх стасункі з Богам. Бо, калі першай дзяржаўнай асобай становіцца атэіст, ці варта чакаць ад яго сапраўднага служэння людзям, сваім суайчыннікам? Менавіта хрысьціянская вера дапамагае дзяржаўнаму дзеячу глыбінна адчуць сваю адказнасьць за лёс грамадзян, якія даверыліся яму. І тады ў яго штодзённай дзейнасці галоўную ролю будуць іграць не палітычная кан'юнктура, не ўзвялічванне любым шляхам свайго аўтарытэту, а толькі голас сумлення. Гэта карэнным чынам прадвызначыць, і якім будзе яго акружэнне, а таксама пачне аздараўляць маральны клімат грамадзтва ў цэлым. Але не трэба думаць, што ў такім выпадку ў дзяржаве паўнаўладна запануе хрысьціянская ідэалёгія, і царква ў краіне набудзе дамінуючы заканадаўчы статус. Гаворка ідзе толькі пра хрысціянскія каштоўнасці, з якіх вынікаюць маральныя абавязкі кожнага верніка, уключаючы ў першую чаргу і прэзідэнта".*

Не да аднаго прэзыдэнта гэткая ўвага патрэбная, але й да ўсіх нашых дзеячоў, на Бацькаўшчыне й за мяжою!

## БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА

### КАНСЫСТОРЫЯ

## ВЫЯСЬНЕНЬНЕ

Паводле атрыманых зь Беларусі вестак нядаўна там быў уладамі зьвінавачаны ў распусьце з падлеткамі ды арыштаваны жыхар Менску Пётра Гушча, што раней выдаваў сябе за сьвятара, а апошня за япіскапа БАПЦ.

Не займаючы становішча да зьвінавачаньня, дзеля нястачы дакладнейшых інфармацыяў, Кансысторыя БАПЦ яшчэ раз падае да агульнага ведама наступнае:

У асьцярогах зьмешчаных у "Царкоўным Пасланцы" № 2-3/39/46 за лета-восень 1996-га г., ды ў № 2/43/53 за лета 1997-га г. Кансысторыя БАПЦ ужо выясьняла, што вышэй успомнены жыхар Менску Пётра Гушча, што карыстаецца ў ягонай дзейнасьці імём БАПЦ, ніякае лучнасьці зь Беларускаю Аўтакефальнаю Праваслаўнаю Царквою, ані права на карыстаньне Ейным імём ня меў і ня мае.

Кансысторыя БАПЦ і ўзноў папярэджвае, што, ні названы вышэй Пётра Гушча, ані ягоны зьверхнік з ЗША Эмігідыюш (Юры) Рыжы ня ёсьць праваслаўнымі сьвятарамі, ці япіскапамі, або нават праваслаўнымі вернікамі ды ніякага дачыненьня да БАПЦ ня маюць і ніколі ня мелі.

Тое-ж, што ў гэтых неправаслаўных, або адпалых ад Праваслаўнае Веры жанатых людзей хапае нахабнасьці выдаваць сябе за праваслаўных беларускіх япіскапаў ды дзеяць пад украдзеным імём Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ставіць пад сумнеў іхны маральны ўзровень.

З увагі ўсё гэта Кансысторыя БАПЦ асьцерагае вернікаў БАПЦ і ўсіх праваслаўных беларусаў ад дачыненьняў з вышэй названымі асобамі й іхнымі супрацоўнікамі, ды памочнікамі.

Сакавік Б. л. 1998-га — Кансысторыя БАПЦ

**ПРАЦЯГВАЕЦЦА ПАДПІСКА Й ЗБОР АХВЯРАЎ НА ВЫДАНЬНЕ КАСЭТЫ ЗЬ БЕЛАРУСКІМІ ПЕСЬНЯМІ Ў ВЫСАКА МАСТАЦКІМ ВЫКАНАНЬНІ**

**ВАЛЯНТЫНЫ ПАРХОМЕНКА й АЛЕСЯ ДЫ ВОЛЬГІ КАЗАКОЎ**

**ПАШЛЕЦЕ ВАШУЮ ПАДПІСКУ, АБО АХВЯРУ НА ЙМЯ**

**L. YUREVICH, 1673 W. 2 nd ST. # 2 F**
**BROOKLYN, N.Y. 11223**

**ПАЧАТАК СЬВ. ЛІТУРГІІ Ў КАТЭДРАЛЬНЫМ САБОРЫ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА КОЖНАЕ НЯДЗЕЛІ А 9-Й Г. РАНІЦЫ.**

**СЬВЯТЫ Ў ТЫДНІ, КАЛІ НЕ ЗАКАЗАНА ЙНАКШ, УШАНОЎВАЮЦЦА Ў НАЙБЛІЖЭЙШЫЯ НЯДЗЕЛІ.**

**ПЕРАД ПАЧАТКАМ СЬВ. ЛІТУРГІІ МОЖНА ПАЙСЬЦІ ДА СПОВЕДЗІ, АБО ПАДАЦЬ УСПОМНЫЯ СЬПІСКІ ЗА СУПАКОЙ ПАМЕРЛЫХ, ЦІ ЗДАРОЎЕ ЖЫВЫХ.**

**АДРЫС:**
**401 ATLANTIC AVE., BROOKLYN, N.Y. 11217-1702**
**TEL.: (1 718) 875-0595, TEL./FAX/: (1 732) 873-8026**

**ЧЫТАЙЦЕ Й РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ "ЦАРКОЎНАГА ПАСЛАНЦА", АДЗІНЫ ЧАСАПІС ПРЫСЬВЕЧАНЫ ІДЭІ НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ!**

## ПАДЗЯКА Й ЗАКЛІК

Вітаем Вас, Дарагія Чытачы, ізь Сьвятым Вялікаднем ды ўсім чыста жадаем Божага прыяньня й апекі, як у прыватным і сямейным жыцьці, гэтак і ў царкоўных ды нацыянальных справах.

На посьпех гэтых, павязаных паміж сабою беларускіх царкоўных і нацыянальных справаў, якраз і працуе наш сьціплы часапіс.

Сьціплы ён не з намеру Рэдакцыйнае Калегіі, але зь ейных малых матарыяльных магчымасьцяў, што выводзяцца з малога зразуменьня ў нашым грамадзтве неабходнасьці адбудовы роднае Праваслаўнае Царквы дзеля ўзнаўленьня дзяржаўнае незалежнасьці.

Тымчасам у нядбайнікаў праз існаваньне нашага народу ды ворагаў ягонае незалежнасьці няма сумневаў, што царква й рэлігія найбольш пэўная прылада дзеля асягненьня іхных згубных для нас, як нацыі мэтаў.

Таму й плывуць на Беларусь шырокія пацёкі расейскай польскамоўнае рэлігійнае літаратуры, што абяртаюць нашых людзей не ў пабожных беларусаў, а ў грэблівых да бацькоўскае спадчыны расейцаў і палякаў.

Адзіны-ж голас уважнае да дадзеных Богам нашаму народу асаблівасьцяў і прыязьнае да ягонае свабоды гэтыя асаблівасьці разьвіваць роднае яму Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы даходзіць на Бацькаўшчыну рэдка й у малой колькасьці.

Ці дзіва тады, што нясьведамая запраўднае веры грамадзкая думка й вынікі галасаваньняў ды рэфэрэндумаў ідуць на некарысьць нашае свабоды?!

Узважце ў Вашых думках і сэрцах, Дарагія Чытачы, гэтую годную жалю нераўнавагу на полі змаганьня за душу нашага народу ды Вашымі шчодрымі ахвярамі пажэце перахіліць яе на карысьць роднае Праваслаўнае Царквы й свае Дзяржавы.

Прыкладам у падтрыманьні дагоднае Богу справы, што "Царкоўны Пасланец" робіць, няхай будуць Вам чытачы, прозьвішчы якіх з удзячнасьцяй за атрыманыя ад іх ахвяры ніжэй падаем:

К. Верабей - 10 д., А. Войтэнка - 20 д., В. Гарадзенскі - 10д., М. Грэбень - 30 д., Б. Даніловіч - 25 д., Р. Данілюк - 100 д., В. Кажан - 40 д., Ю. Касьцюкевіч - 50 д., а. В. Кендыш - 50 д., В. Лосік - 10 д., А. Лысюк - 100 д., К. Мерляк - 50 д., Ю. Навумчык - 20 д., А. Падлескі - 20 д., М. Сагановіч - 20 д., С. Сланімскі - 10 д., др. М. Смаршчок - 30 д., а. К. Стар - 15 д., а. М. Страпко - 20 д., А. Тальянскі - 10 д., В. Цярпіцкі - 20 д., В. Штробэль - 50 д., Я. Юхнавец - 10 д., О. Яськевіч - 70 д..

Калі-б гэткія шчодрыя водгукі былі на кожны нумар, дык можна было-б наш часапіс нятолькі друкаваць ды распаўсюджваць на Бацькаўшчыне й за мяжою, але й, хоць час ад часу, далучаць да яго іншыя патрэбныя выданьні на рэлігійныя тэмы.

З надзеяй на далей узбагачваную Вашымі ахвярамі, Дарагія Чытачы, касу выдавецтва, сябры Рэдакцыйнае Калегіі будуць яшчэ шчырэй працаваць, каб узбагаціць ды палепшыць зьмест часапісу.

Працуючы гэтак разам мы збудзім праваслаўных вернікаў на Беларусі да талакі на ўзнаўленьне роднае ім Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, у Якой яны ўпросяць Божае помачы й навагі на адбудову Незалежнае Беларускае Дзяржавы.

Рэдакцыйная Калегія
"Царкоўнага Пасланца"

BELARUSIAN AUTOCEPHALOUS
ORTHODOX CHURCH
ST. CYRIL'S OF TURAU CATHEDRAL
401 Atlantic Ave., Brooklyn, N.Y. 11217-1702
CHURCH MESSENGER
Vol. 26, No. 1, Easter 1998
ISSN 1085-973x

ADDRESS CORRECTION REQUESTED
RETURN ADDRESS:
P.O. BOX 5982
SOMERSET, N.J. 08875-5982

NONPROFIT ORG.
U.S. POSTAGE
PAID
SOMERSET, N.J.
PERMIT NO. 44